



# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень
27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

12 мая 2017 года №19 (1150)


# Маладзечанка 5 хвілін знаходзілася ў стане клінічнай смерці

Вольга Бярнат са старэйшым сынам, Мацвеем. Калі мама вярнулася з бальніцы, хлопчык ні на крок не адыходзіўся ад яе.

Старонка 2

Фота Наталлі ТУР.



## Акцыя "Беларусь памятае": – Хлопчык, хто ў цябе на партрэце? – Не ведаю, нам яго ў школе выдалі

старонка 5

## Куфэрак: Армія Краёва ў Налібоцкай пушчы і яе наваколлі

старонка 19

## Невідушчы выкладчык з Маладзечна стварыў дадатак "Камасутра для невідушчых"

старонкі 21



## Невядомы дыягназ і безбар'ернае асяроддзе ў вёсцы: інвалід з Ільі расказаў пра сваё жыццё

старонка 20

## Выпускніцы школы і садка: каго танней сабраць на свята

старонкі 18

# Маладзечанка 5 хвілін знаходзілася ў стане клінічнай смерці:

## "Дактары выратавалі маму дваіх дзяцей і сястру трох братоў"

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Дзень 13 сакавіка для 33-гадовай маладзечанкі Вольгі Бярнат стаў другім днём нараджэння.**




**Рэанімабіль у маладзечанскіх дактароў самы сучасны. Асобная рэанімацыйная палата для аднаго. Фота Наталлі ТУР.**

Менавіта ў гэты дзень яна перажыла клінічную смерць.

А пачалося ўсё са звычайнага ўколу супраць боляў у спіне. Пасля гэтага Вольга раптам адчула сябе дрэнна.

– Я сама медык, таму ведала, што калю. І думкі не магла дапусціць, што гэта анафілаксія. Думала, пройдзе само.

Аднак з кожнай хвілінай жанчыне станавілася ўсё больш кепска. Выклікалі "хуткую дапамогу".

– Да мяне прыйшла суседка, я ёй яшчэ гаварыла, што рабіць, пакуль прыедзе "хуткая". Але ўжо праз 10 хвілін у дзверы пазванілі дактары з фельчарскай брыгады.

Што адбылося ў тыя хвіліны, пакуль працавала фельчарская брыгада, калі дактары зразумелі, што не справяцца сваімі сіламі, калі яны выклікалі на дапамогу брыгаду інтэнсіўнай тэрапіі, Вольга памятае слаба.

> **– Я памятаю, што быццам губляла прытомнасць, потым прыходзіла ў сябе, прасіла сваю маму паклапаціцца пра маіх дзяцей. Потым цемень. І прыйшла я ў прытомнасць толькі ў мінскай 9-й клінічнай бальніцы. Праз чатыры дні.**

Вольга некалькі хвілін знаходзілася ў стане клінічнай смерці.

– Я не памятаю ні нейкіх светлых калідораў, пра якія паказваюць у кіно, не было ніякіх трызненняў, мне нічога не здавалася. Я адчувала, быццам заснула і праспала вельмі доўга.

Размаўляючы са мной, Вольга праз слова называе прозвішчы дактароў, што яе, ні на секунду не перабольшваючы, засталі з таго свету:

– **Міхаіл Брыжоў** і **Аляксандр Шалаеў**, дактары "хуткай", я ім вельмі ўдзячная, – кажа Вольга. – Мне і раней даводзілася выклікаць "хуткую", але на выклік прыязджалі толькі дзяўчаты-дактары. А тут, калі на кароткія хвіліны прыходзіла ў прытомнасць, бачыла, як каля канапы нада мной стаяць адны хлопцы.

Але не толькі дактарам "хуткай", супрацоўнікам рэанімацыі маладзечанскай ЦРБ Вольга абавязаная сваім жыццём. Яна лічыць, што яе маці, **Антаніна Пятроўна**, таксама яе ратавала.

– Мама мая выратавала мяне сваёй верай. Яна малілася за тое, каб я была жывая і здаровая. Я ж ведаю, што клінічная смерць – гэта не проста адключыцца, дактары ўдарылі цябе дэфібрылятарам і адразу стала ўсё добра. Усе, хто так ці інакш разбіраецца ў медыцыне, ведаюць, што пасля клінічнай смерці могуць быць незваротныя працэсы ў мозгу. Таму і маці мая малілася і прасіла, хаця б у мяне ўсё было добра з галавой.

Вользе – 33 гады. Яна мама двух сыноў. Старэйшаму, Мацвею, – сем гадоў, малодшаму, Кірылу, – тры.

– Калі са мной здарылася гэта няшчасце, Мацвей быў дома. Ён бачыў, як мне на вачах станавілася блага. Мацвей схаваўся за крэсла і сядзеў там. Потым, пасля таго, як мяне забрала "хуткая", як я правяла некалькі дзён у рэанімацыйным аддзяленні ў Маладзечне, як потым мяне адправілі ў Мінск, я вярнулася дадому толькі праз месяц. Мацвей ні на крок ад мяне не адыходзіўся. Так сумаваў. Таму дзякуй дактарам за тое, што яны выратавалі не толькі дачку, але і маму двух маленькіх хлопчыкаў. Уся сям'я моцна перажывала: і муж, і малодшы сынок. І старэйшыя браты. А таксама мой брат, мой двайнятка. Сяргей прыехаў адным з першых. Мы сапраўды адчуваем адзін аднаго.

Цяпер Вольга пакуль на бальнічным, аднаўляецца, адпачывае, але вельмі сумуе па рабоце.

– Я працую ў рэанімацыі дзіцячай бальніцы. Вельмі люблю сваю работу. Бо ні з чым не параўнаць тое пачуццё, з якім мы аддаём мамам у рукі дзетак, чым жыццям пасля працы нашых дактароў ужо нічога не пагражае. Гэта неверагоднае шчасце.

### Выратаванне ад смерці – гэта цяжкая фізічная праца

– Пасля таго, як мы засталі Вольгу з таго свету, – расказвае доктар "хуткай дапамогі" выязной брыгады інтэнсіўнай тэрапіі **Міхаіл Брыжоў**, – у пакоі стаяў моцны пах мужчынскага поту. Праца дактароў – гэта не гераізм, гэта цяжкая фізічная праца.

Той дзень дактарам таксама запомніўся, хаця бывалі ў практыцы выпадкі, калі за дзень даводзілася выязджаць на тры клінічныя смерці:

– Былі два цяжкія інфаркты і траўма галавы ў 22-гадовага хлопца. Гулялі вяселле, хлопец ударыўся галавой, кровазліццё ў мозг. Хлопец хацеў стаць лётчыкам. Ужо не стане. Што датычыцца Вольгі, – працягвае доктар Брыжоў, – то ёй нейкімі вышэйшымі сіламі было наканавана жыць.

– Хаця выклік быў не тэрміновы, – уключаецца ў размову фельчар **Аляксандр Шалаеў**, – Вольга выклікала "хуткую" са скаргамі на дрыжыкі, слабасць, тэмпературу. З такімі сімптомамі дакладны дыягназ паставіць складана. Вольга расказала, што гэтыя сімптомы з'явіліся пасля ўвядзення лекаў. Тады стала зразумела, што гэта рэакцыя на прэпарат. А пасля Вольга пачала абмякаць, ведаеце, быццам выключаюць святло: яна станавілася млявай, бледнай. Я сцяміў, што трэба дапамога.

І вось з гэтага моманту час пачаў працаваць на Вольгу. Мяркуйце самі: машына рэанімацыі была на выкліку, трэба было перавезці хворага з бальніцы №1 на камп'ютэрную тамаграму ў бальніцу №2.

– Калі мне патэлефанаваў Шалаеў, – расказвае Міхаіл Брыжоў, – і сказаў, што ў маладой жанчыны канстатавана клінічная смерць, я неадкладна прыняў рашэнне ехаць на выклік. Але вось жа, каб мы пагрузілі ў рэанімабіль гэтага хворага чалавека з бальніцы, ніхто б яго ўжо назад не клаў, Вольга вымушаная была б чакаць, пакуль машына вызваліцца.

Па-другое, рэанімабіль аказаўся паблізу дома, дзе жыве Вольга. Па-трэцяе, праезд у двор быў вольны, хаця, як расказалі дактары, часам здараецца, што даводзіцца і "пабадацца" за тое, каб праехаць. Да таго ж ліфт знаходзіўся на першым паверсе. Рэанімабіль у маладзечанскіх дактароў самы сучасны. "Асобная рэанімацыйная палата для аднаго", скажуць пасля дактары.

А далей… лік на секунды і адладжаная праца пяцёх чалавек з двух брыгад: **Міхаіла Брыжова**, **Аляксандра Шалаева**, **Святланы Ляўковіч**, **Сяргея Гінько**, **Аляксея Бароўскага**. А таксама вадзіцеляў машын: **Аляксандра Кушаля і Вікенція Капыша**.

– Паверце, няма эйфары пасля таго, як выратуеш чалавека, – кажа Міхаіл Брыжоў, – ёсць унутранае апусташэнне і дрэнны сон на некалькі дзён наперад. Для медыкаў – гэта яшчэ большы стрэс, чым для сваякоў хворага. Мы бачылі розныя смерці, і гэта не гераізм, гэта страшна заўсёды. Вось сям'я, у якой былі планы на выхадныя і якія праз 15 хвілін ляжаць усе мёртвыя на дарозе, дзе толькі што адбылася аварыя. Хлопец, які два тыдні таму адзіны выжыў у аварыі, а цяпер мы яго не змаглі выратаваць з вады. Хлопец патануў.

Дактары "хуткай" адмовіліся ад фотаздымка.

– Ды таму, што не толькі тое важна, хто першы прыехаў на выклік. Тое, што Вольга жывая, заслуга і дактароў рэанімацыйнага аддзялення, і спецыялістаў з мінскай 9-й клінічнай бальніцы. Бо на кожным з гэтых этапаў Вольга магла памерці.

– Таму самае галоўнае, – удакладняе загадчык станцыі "хуткай дапамогі" **Андрэй Мушавец**, – што ў працы ўсіх нашых службаў ёсць пераемнасць.

Хаця дактарам, як яны прызнаюцца, дастаткова падзякі мамы Вольгі, Андрэй Іванавіч са сваімі калегамі не згодны.

– Я лічу, што павінны ўсе ведаць, якая гэта цяжкая праца. Вельмі крыўдна слухаць пра сябе тое, што "хуткая" да некага не едзе на выклік. Бываюць розныя выклікі: экстранныя, тэрміновыя і неадкладныя. А бывае, што "хуткая" не едзе, таму што ёй не даюць праехаць. Але з такімі выпадкамі нам дапамагае спраўляцца наша маладзечанская ДАІ.



Наталля ТУР
natali.turenok@gmail.com
8-044-566-26-99

# “Кажу, што градуснік разбіў, а яны мне – збярыце хлебам”

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Маладзечанец Віктар разбіў ртутны градуснік з месяц таму. Адразу сабраў вялікія шарыкі, але гэта быў толькі пачатак.**

Прыкладна праз месяц малады мужчына пачаў заўважаць, што ў яго праблемы са здароўем: нудзіць, галавакружэнне, прысмак жалеза на языку.

– А ў мяне ў ваннай рамонт яшчэ не зроблены, – распавядае Віктар. – Я агледзеўся, пачаў падымаць плітку і бачу маленькія шарыкі ртуці. Чым я толькі не спрабаваў збіраць – і венікам, і пыласосам. Як пасля аказалася, так збіраць увогуле нельга.

Маладзён вырашыў, што яго пагаршэнне здароўя звязанае якраз з тым, што ў кватэры засталася непрыбраная ртуць. Патэлефанаваў у службу МНС.

– Папрасіў прыехаць ці расказаць, як мне самому сабраць, – прыгадвае маладзечанец. – І мне кажуць – вазьмі хлебам збяры ці скотчам! Я зразумеў, што лепш і далей у інтэрнэце буду чытаць, і кінуў трубку.

Мужчыну абурыла прапанова сабраць рэшткі ртуці хлебам, а таксама тое, што яму не патлумачылі, куды іх пасля выкідаць. Ён і выкінуў проста праз акно.

### Збіраць хлебам – сапраўды адзін са спосабаў

Пракаментаваць сітуацыю мы папрасілі старшага інспектара групы прапаганды і навучання Маладзечанскага гарраддзела па надзвычайных сітуацыях **Марыну Ганчарову**.

Яна патлумачыла, што выратавальнікі выязджаюць на мерапрыемствы па дэмеркурызацыі, калі іх не можа забяспечыць чалавек ці арганізацыя самастойна. У выпадку, калі градуснік разбіўся месяц таму, то зразумела, што аператы̆ўнасць ужо сышла.

– Больш за тое, маладзечанцу давалі рэкамендацыі паводле інструкцыі, дзе прапанова сабраць ртуць хлебам – толькі адзін са спосабаў пазбавіцца ад небяспечнага металу, – распавядае старшы інспектар. – Мы гаворым, што можна зрабіць, а чалавек можа выбраць найбольш зручны для сябе спосаб. І ні ў якім разе нельга рэшткі выкідаць! Іх трэба прынесці ў МНС.

Галоўны спецыяліст сектара арганізацыі функцыянавання дзяржаўнай сістэмы папярэджання і ліквідацыі надзвычайных сітуацый **Сяргей Рудзянкоў** удакладніў, што рэшткі ртуці неабходна прынесціць у часць, напрыклад, у пакеце. Затым выратавальнікі дастаўляюць прынятую ад насельніцтва ртуць у таварыства “Белколермет” у Гатаве – бліжэйшы прыёмнік гэтага металу.

### Праверце ўплыў на здароўе

У Цэнтры гігіены і эпідэміялогіі Маладзечанскага раёна патлумачылі, што ртутныя градуснікі ўвогуле паступова выходзяць з ужытку. Установы аховы здароўя, ды і жыхары, аддаюць перавагу электронным градуснікам. Таму цяпер разбітыя градуснікі – рэдкія выпадкі.

Аднак гэта не змяншае небяспечнасці ртуці, калі такія выпадкі ўсё ж здараюцца. Каб праверыць памяшканне на астаткавае ўтрыманне пароў ртуці, трэба правесці даследаванне. Маладзечанская лабараторыя ЦГЭ на гэта не акрэдытаваная. Даследаванне можа зрабіць Мінскі абласны ЦГЭ.

Тэрапеўт маладзечанскай бальніцы №3 **Жанна Кісель** паведаміла, што маладзечанцу Віктару для праверкі здароўя варта здаць аналізы і наведаць тэрапеўта.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

## Калі разбілі градуснік

Выведзіце з памяшкання дзяцей, сталых людзей, дамашніх жывёл.

Падрыхтуйце раствор марганцоўкі і слоік са шчыльнай накрыўкай.

Надзеньце вільготную марлевую павязку і гумовыя пальчаткі.

Шарыкі ртуці збярыце пэндзлем. Маленькія лейкапластырам ці скотчам. Змясціце ў папяровы канверт.

Ачышчаную паверхню апрацуйце растворам марганцоўкі ці мыльна-содавым растворам.

Сабраную ртуць апусціце ў слоік з растворам марганцоўкі. Па нумары **101** удакладніце, куды яе перадаць.

Пасля прыбірання добра праветрыце памяшканне.

### Што рабіць нельга

- Дакранацца рукамі да ртуці.
- Карыстацца ачышчальнымі сродкамі для чысткі месца разліву.
- Мыць прадметы, якія кантактавалі з ртуццю.
- Выкідаць ртуць у сметніцу.
- Зліваць ртуць у каналізацыю.

Паводле інфармацыі Міністэрства надзвычайных сітуацый.

© “Рэгіянальная газета”

Інфаграфіка Зоі ХРУЦКАЙ.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 4.05 | 11.05 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,8716 | **1,8855** |
| Еўра | 2,0421 | **2,0520** |
| Злоты, 10 | 4,8645 | **3,2468** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,2775 | **3,2468** |
| Грыўня, 100 | 7,0640 | **7,1259** |
| **Курсы ў “Банку БелВЭБ”** | **3.05** | **10.05** |
| Еўра | 2.0200/2.0450 | **2.0400/2.0750** |
| Долар ЗША | 1.8600/1.8750 | **1.8700/1.8900** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| **ПРАДУКТЫ** | **3.05** | **10.05** |
| | Цана руб. | |
| Кілбаса “Мядовая”, 1 кг | 16,85 | **16,85** |
| Сасіскі “Малочныя”, 1 кг | 6,93 | **6,93** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,25 | **3,25** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,00 | **8,00** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,15 | **4,15** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 13,80 | **13,80** |
| Рыс, 0,9 кг | 1,45 | **1,45** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,25 | **2,25** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 1,70 | **1,70** |
| Алей “Фермер”, 1 л | 2,20 | **2,20** |
| Маянэз, 200 г | 0,65 | **0,65** |
| Соус “Мінскі”, 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Кава “Nescafe”, 100 г | 5,20 | **5,20** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,95 | **0,95** |
| Часнок, 1 кг | 6,49 | **6,50** |
| Капуста (маладая), 1 кг | 1,80 | **1,99** |
| Морква (маладая), 1 кг | 1,29 | **1,00** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 3,80 | **1,00** |
| Лімоны (маладыя), 1 кг | 4,69 | **4,49** |
| Апельсіны, 1 кг | 2,49 | **2,49** |
| Мандарыны (маладыя), 1 кг | 2,75 | **3,95** |
| Радыска, 1 кг | 3,00 | **2,50** |
| Ківі, 1 кг | 4,69 | **4,25** |
| Буракі (маладыя), 1 кг | 2,50 | **2,50** |
| Памідоры, 1 кг | 4,45 | **4,45** |
| Агуркі, 1 кг | 3,65 | **2,45** |
| Перац, 1 кг | 6,45 | **5,95** |
| Грэйпфрут, 1 кг | 2,49 | **3,29** |
| Вінаград, 1 кг | 4,95 | **5,50** |
| Бананы, 1 кг | 2,65 | **2,65** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,45 | **1,45** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 3,85 | **3,49** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,20 | **1,20** |
| Масла, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Бульба, 1 кг | 0,70 | **0,80** |
| Сала, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,50 | **2,50** |
| Мёд, 0,5 л | 6,50 | **6,50** |

## Падпішыся на “Рэгіянальную газету” на 2-е паўгоддзе і на чэрвень

І няхай удача вас не пакідае!

*ПАДПІСНЫ ІНДЭКС: 63212 (індывідуальная), 632122 (ведамасная падпіска).*

*Толькі падпіска можа забяспечыць сталае існаванне газеты, яе развіццё, упэўненасць у заўтрашнім дні і якасць.*

**Падпісацца можна:**

✓ праз сайт “Белпошты”. Зарэгіструйцеся на сайце.

Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем “афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі”, выбіраем “Алфавітны”. Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Ціснем літару “Р”, справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – “Рэгіянальная газета”.

✓ на пошце,

✓ праз паштальёна

✓ праз плацежна-даведачны тэрмінал

**Цэны на 2-е паўгоддзе:**

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 3 рублі, на тры месяцы – 9 рублёў, на паўгода – 18 рублёў.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 9 рублёў, на тры месяцы – 27 рублёў, на паўгода – 54 рублі.

Можна падпісацца яшчэ на чэрвень.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

Цана са скідкай на месяц для індывідуальных падпісчыкаў роўная **2,40** рубля, для ведамасных – **8,29**.

НАВІНЫ

## Магчыма, і вас абакралі? Прадаўцы посуду і касметыкі абкрадалі маладзечанцаў

**МАЛАДЗЕЧНА**

Міліцыя затрымала падазраваных, але мяркуецца, што пацярпелых нашмат больш, чым праходзіць па справе. Таму калі вы пасля візіту гэтых людзей не далічыліся рэчаў, звяртайцеся да праваахоўнікаў.

Заявы аб кватэрных крадзяжах пасля прыходу прадаўцоў кухонных прыналежнасцяў і касметыкі пачалі паступаць ад сярэдзіны красавіка.

**У Маладзечне такія крадзяжы былі ад 13 да 21 красавіка.**

Вядома, што акрамя Маладзечна, злачынцы абіралі кватэры ў Оршы і Дзяржынску.

Пацярпелыя пераважна пенсіянеры. Яны распавядаюць, што да іх заходзілі адзін ці двое маладых людзей 25-30 гадоў. Яны прэзентавалі посуд, сталовыя прыборы, касметыку. А пасля таго, як яны сыходзілі, гаспадары заўважалі, што ў іх зніклі грошы – ад 75 да 350 рублёў, а ў аднаго пенсіянера скралі ноўтбук.

Аператыўнікі затрымалі падазраваных. Спачатку іх гісторыі сыходзіліся ва ўсіх дэталях: нядаўна працавалі ў адной з кампаній, пасля вырашылі працаваць на сябе. З узорамі тавараў абыходзілі ў асноўным шматпавярхоўкі. Звычайна звярталіся да пенсіянераў, таму што яны "больш спакойныя, запрашалі ў кватэру". Нават на пытанне, хто краў, адказалі аднолькава: "Я праводзіў прэзентацыю, а партнёр, напэўна, паддаўся спакусе, узяў грошы, а пасля падзяліўся, каб я маўчаў".

Кожны з іх запэўніваў, што менавіта ён праводзіў прэзентацыю. Аднак праз нейкі час малодшы з затрыманых вырашыў чыстасардэчна прызнацца, пакуль не прызнаўся другі. Расказаў, што яны дакладна прадумвалі крадзяжы, размяркоўвалі ролі. Пакуль малодшы адцягваў увагу пенсіянераў, старэйшы шукаў грошы ці каштоўныя рэчы.

У адносінах да затрыманых узбудзілі крымінальную справу па артыкуле "Крадзеж", якая прадугледжвае да трох год пазбаўлення свабоды.

**Ігар ШЧАРБАЧЭНЯ, начальнік УКВ УУС Мінаблвыканкама.**

## Нецвярозы бясправўнік сутыкнуўся з трактарам. Яго пасажырка загінула

**АШМЯНЫ**

Аварыя адбылася 7 мая каля вёскі Баруны на Ашмяншчыне.

Нецвярозы кіроўца "Нісана", які ніколі не меў правоў кіроўцы, на закругленні ўлева выехаў на правую абочыну. Яго занесла, і ён выехаў на сустрэчную паласу, дзе сутыкнуўся з трактарам.

У выніку пасажырка, якая ехала на пярэднім сядзенні, загінула на месцы.

Яна не была прышпіленая рамянём бяспекі.

МУС удакладняе, што загінулай была 29-гадовая жанчына. І яна, і кіроўца "Нісана" – мясцовыя жыхары.

**ДАІ Гродна і Гродзенскай вобласці.**

## Маладзечанец наехаў на 54-гадовага мужчыну, той загінуў

**МАЛАДЗЕЧНА**

Аварыя адбылася 6 мая ў 11 ночы на дарозе Маладзечна-Смаргонь каля вёскі Лебедзева.

25-гадовы маладзечанец наехаў на 54-гадовага мужчыну. Ад атрыманых цялесных пашкоджанняў той загінуў.

Кіроўца быў цвярозы, труп аддадзены на экспертызу.

Загінулы неадназорова прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці, злоўжываў спіртным. Па папярэдніх дадзеных, мужчына не меў пастаяннага месца жыхарства, жыў у вёсцы Мароські.

Крымінальная справа ўзбуджаная 7 мая за парушэнне правілаў дарожнага руху альбо эксплуатацыю транспартных сродкаў асобай, якая кіруе транспартным сродкам, што пацягнула па неасцярожнасці смерць чалавека альбо прычыненне цяжкага цялеснага пашкоджання.

Расказаў старшы следчы маладзечанскага Следчага камітэта **Юры Багушэвіч**.

**Галіна СУДНІКОВІЧ.**



# Тормаз быў няспраўны

## Завяршылі расследаванне зімовай аварыі з чатырма машынамі

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Упраўленне Следчага камітэта па Мінскай вобласці завяршыла расследаванне справы аб ДТЗ са смяротным зыходам з удзелам некалькіх транспартных сродкаў.**



Здарэнне адбылося 3 студзеня. Упраўленне Следчага камітэта па Мінскай вобласці завяршыла расследаванне. Крымінальная справа перададзеная ў пракуратуру для накіравання ў суд.

Раніцай 3 студзеня 54-гадовы жыхар Маладзечна, кіруючы аўтапоездам у складзе сядзельнага цягача "Вольва" і паўпрычэпа рухаўся па 71-м кіламетры аўтадарогі "Мінск-Маладзечна-Нарач" у напрамку Мінска. Ён дапусціў датычнае сутыкненне з "Сітраэнам-Ксара", які спыніўся для павароту налева. Аўтапоезд выехаў на сустрэчную паласу руху і дапусціў сутыкненне з аўтамабілямі ГАЗ і "Шкода-Фабіян".

У выніку 35-гадовы кіроўца ГАЗа ад атрыманых цялесных пашкоджанняў памёр на месцы здарэння, двое пасажыраў былі шпіталізаваныя з цяжкімі цялеснымі пашкоджаннямі.

Следчыя ўстанавілі, што кіроўца аўтапоезда меў рэальную магчымасць бачыць наперадзе ў яго паласе руху "Сітраэн". З улікам неспрыяльнага надвор'я і дарожных умоў праявіў няўважлівасць. Своечасовых мер да зніжэння хуткасці для спынення аўтапоезда не прыняў.

Тармазная сістэма паўпрычэпа была тэхнічна няспраўная, з такой непаладкай забараняецца ўдзельнічаць у дарожным руху.

Парушэнні кіроўцы сталі прычынай цяжкіх наступстваў.

Дзеянні вадзіцеля кваліфікаваныя па артыкуле "Парушэнне правілаў дарожнага руху і эксплуатацыі транспартных сродкаў асобай, якая кіруе транспартным сродкам, што пацягнула па неасцярожнасці смерць чалавека і прычыненне цяжкага цялеснага пашкоджання".

З улікам змякчальных абставінаў абвінавачаны знаходзіцца пад падпіскай аб нявыездзе. Крымінальная справа перададзеная ў пракуратуру для накіравання ў суд.

**Таццяна БЕЛАНОГ, афіцыйны прадстаўнік УСК па Мінскай вобласці.**

## Незаконна выпальваеце сухую расліннасць – адкладзіце 920 рублёў

**Наводзячы парадак на прысядзібных і дачных участках, людзі спальваюць смецце і сухую траву. Небяспека такіх работ у тым, што ад невялікага вогнішча могуць загарэцца пабудовы, транспартныя сродкі, пацярпець альбо загінуць людзі.**




Спальванні часта прыводзяць да загарання тарфянікаў і лясных насаджэнняў. Цяжка, а часам немагчыма падлічыць усе прамыя і ўскосныя страты, якія ўзнікаюць у выніку лясных і тарфяных пажараў.

Згодна з правіламі пажарнай бяспекі, на тэрыторыі базы адпачынку, дачнага кааператыва, садаводчага таварыства, прысядзібнай тэрыторыі жылога дома можна разводзіць вогнішчы, калі за імі сочаць людзі і прымаюць меры, каб не дапусціць далейшага распаўсюджання агню.

Гэта ж тычыцца і размяшчэння спецыяльных прыстасаванняў для размяшчэння мангала, барбекю, грыля і аналагічных. Калі вы карыстаецеся імі, неабходна кантраляваць працэс гарэння і быць забяспечанымі сродкамі тушэння (вогнетушыльнікам, ёмістасцю з вадой, лапатай і г.д.). Пасля заканчэння прыгатавання ежы палаючыя матэрыялы трэба патушыць да заканчэння тлення.

Размяшчаць вогнішчы можна на адлегласці не менш за 10 метраў ад пабудоў (збудаванняў), 20 метраў ад лясных масіваў, 30 метраў ад сціртаў сена і саломы. А спецыяльныя прыстасаванні для прыгатавання ежы – на адлегласці не менш за 4 метры ад пабудоў (збудаванняў).

### Адказнасць за парушэнне

За парушэнне заканадаўства аб пажарнай бяспецы пагражае папярэджанне альбо штраф да 200 базавых велічынь (4600 рублёў).

За парушэнне правілаў пажарнай бяспекі асобай, адказнай за іх выкананне, якое пацягнула пажар, пагражае штраф ад 30 да 50 базавых велічынь (ад 690 да 1150 рублёў).

За незаконнае выпальванне сухой расліннасці, травы, а таксама ржышча і пажніўных астаткаў на палях альбо за непрыняцце мер па ліквідацыі выпальвання на зямельных участках пагражае штраф ад 10 да 40 базавых велічынь (ад 230 да 920 рублёў).

**Валянціна СОПАТ, Маладзечанскі ГРАНС.**

# Акцыя "Беларусь памятае":
# "Хлопчык, хто ў цябе на партрэце?" "Не ведаю, нам яго ў школе выдалі"

МАЛАДЗЕЧНА

**Свята 9 Мая сёлета амаль нічым не адрознівалася ад леташняга святкавання. Тая ж праграма, той жа маршрут ад Цэнтральнай плошчы да брацкай магілы па Драздовіча, тыя ж словы, тыя ж песні.**




Фота Наталлі ТУР.

**Партрэты ветэранаў на парадзе ў Дзень Перамогі прыносілі не толькі сваякі, але і проста школьнікі, якіх папрасілі аб гэтым.**




Фота vk.com

**Афіша аднаго з начных клубаў .**

Адзінае, што сёлетняе свята адрознівалася хіба тым, што было халоднае надвор'е, таму чэргі за салдацкай кашай і гарачым чаем былі большыя.

А 10 гадзіне раніцы пачалося шэсце ад Цэнтральнай плошчы да брацкай магілы па вуліцы Драздовіча.

У шэсці прынялі ўдзел і ваенныя, і працоўныя калектывы, і школы раёна.

Аднымі з першых пад расцяжкай "Беларусь памятае" ішла калона з партрэтамі тых, хто ваяваў, хто не дажыў да перамогі, а таксама з партрэтамі ветэранаў.

Я ўбачыла сярод партрэтаў фота знаёмага мне ветэрана **Мітрафана Яўсеевіча Жамчужнікава**, які, на жаль, памёр некалькі гадоў таму.

Мітрафан Яўсеевіч, наколькі я памятаю, быў танкістам, прайшоў усю вайну, быў некалькі разоў цяжка паранены, прымаў удзел у Курскай і Сталінградскай бітвах.

Мне даводзілася сустракацца з ім некалькі разоў, і заўсёды Мітрафан Яўсеевіч расказваў пра вайну не як пра подзвіг, а як пра цяжкую штодзённую працу. Пра тое, што сапраўды ў атаку беглі з крыкамі "Ура!", што ведалі: назад адступаць нельга.

І што сам Мітрафан Яўсеевіч, калі яго вельмі цяжка параніла ў галаву, заняў месца забітага кулямётчыка і працягваў весці агонь па праціўніку.

І вось на свяце Перамогі я звярнулася да падлетка ў спадзяванні, што пазнаёмлюся з праўнукам героя:

**– Хлопчык, а хто гэта ў цябе на партрэце?**

– Я не ведаю, нам яго ў школе выдалі.

Як выдалі ў школе? Для чаго? У Мітрафана Яўсеевіча, я ведаю, у Маладзечне жывуць унукі і праўнукі. Дык чаму партрэт героя нясуць школьнікі, якія нават не цікавіліся тым, хто ён?

Тая ж гісторыя паўтарылася і яшчэ раз. Падыходжу да хлопцаў, якія паставілі партрэты на зямлю і абапіраюцца на іх:

**– Чые гэта партрэты? Хто гэтыя ветэраны вам?**

Разгублены позірк адзін на аднаго:

– Там жа напісана!

**У Маладзечанскім раёне жыве 96 ветэранаў. З іх інвалідаў вайны – 16 чалавек, удзельнікаў баявых дзеянняў – 60, працаўнікоў тылу – 18, прыфрантавых чыгунак – 2, блакаднікаў – 2.**

Канешне, былі і тыя, хто прыйшоў з партрэтамі сваіх сваякоў, але гэта не былі плакаты фармату А3, як патрабавалі арганізатары для "прыгожай карцінкі". Не партрэты, якія былі ўпрыгожаныя стужкамі, банцікамі і кветкамі.

Гэта былі пажаўцелыя фотакарткі, сямейныя партрэты ў звычайных рамках, баявыя ўзнагароды.

– Мая мама, – расказаў хлопец **Саша**, – штогод прыходзіць на парад з фотаздымкам майго дзядулі. Гэта памяць нашай сям'і. Ніхто не прымушаў, мама проста адчувае, што так трэба.

Пасля слоў віншавання ад старшыні Маладзечанскага райвыканкама **Аляксандра Яхнаўца** пачалося ўскладанне кветак.

Мамы і таты, узброіўшы сваё дзіця цюльпанам і нарцысам, фатаграфавалі іх на фоне Вечнага агню.

Таму вельмі шчымліва было бачыць, як да агню падышла жанчына, а затым дзяўчынка-падлетак з партрэтам, на якім была сямейная пара, бацькі або бабуля з дзядулем. Жанчына нешта шаптала, выцірала слёзы і моўчкі адышла ад брацкай магілы.

Тое ж зрабіла і дзяўчынка: з вачыма, поўнымі слёз, затрымалася на некалькі хвілін, глядзела на імёны на помніку.

Затым я чула ў натоўпе, як госці з Расіі, трымаючы ў руках расійскія сцяжкі, шапталі адзін аднаму:

– Глянь ты, а ў іх тут усё па-руску, усё зразумела.

Так. Нават жалобны мітынг заканчваўся словамі песні: "А я ў Расію, дамоў хачу"…

## Штрыхі да карціны дня

***

Піша чытач: "Сяджу ў парку на канцэрце для ветэранаў. Дзеці ў касцюмах пчолак спяваюць песню з мульціка пра Фіксікаў.

***

Рэкламная афіша аднаго маладзечанскага начнога клуба запрашае каларытна і насычана адзначыць свята.

Афіша другога клуба рэкламным постэрам з агаленымі дзяўчатамі ў пілотках заклікае: "Прыходзь і перамажы".

***

10 мая ў магазінах прадаецца мінеральная вада з этыкеткай: " З Днём Перамогі".

**Наталля ТУР.**



**Гэты артыкул у інтэрнэце быў надрукаваны 9 мая. Маладзечанцы актыўна выказваліся ў каментарах пад артыкулам.**

Губляецца сувязь пакаленняў. У нас, 50-гадовых, гэта свята ў крыві, як генетычная памяць. А далей… страшна. ***Таццяна.***

Таццяна, а далей… далей выміранне, дэградацыя. Нацыя, якая стараецца забыць і перавярнуць усё з ног на галаву, асуджаная на выміранне. ***Наталля.***

Што і трэба было даказаць! Дзеці нават толкам не ведалі, навошта прыйшлі. Сумна. Усё павінна сыходзіць ад душы, а не па прымусе. Трэба было стварыць адчуванне натоўпу – атрымалася. Шкада, што ў гэтым натоўпе палову прымусілі і нават не патлумачылі, навошта гэта. ***Ірына.***

Дзяцей са школы сагналі, паказуху ўстроілі, але на справе нікому гэта не трэба, а дзеці ўвогуле не ведалі, навошта яны прыйшлі і што нясуць у руках. Вельмі паказальна. У прынцыпе, як і ва ўсёй краіне… штогадовая бескарысная трата грошай+нагода жрануць вадзяры+дадатковы выхадны. Даўно пара забыць. Скажаце: як жа так, нельга забываць? А вы ведаеце дату завяршэння Першай сусветнай вайны, дату перамогі над Напалеонам? Не, канешне, не ведаеце! Вам гэта перашкаджае нармальна жыць? Не, канешне! ***Яўген.***

Разумнікі, якія ўмеюць толькі крытыкаваць, выгадуйце сваіх, навучыце, патлумачце і… наперад, калі, канешне, сэрца ваша таго пажадае. Ну, не ведае дзіця, хто на фота. І што такога? Падрасце, захоча і даведаецца. А тое, што школа прывяла, што дрэннага. Нас усіх вадзілі. Мы ўсе дасканала ведаем нашу гісторыю? Мы ўсё ведаем пра сваіх продкаў? Упэўненая – не. Мы гатовыя толькі ў рамках інтэрнэт-прасторы папрактыкавацца ў красамоўнасці, каб адзначыцца нават у такі дзень. Будзьце дабрэйшымі, людзі! ***Ірына.***

Юлія, а вы навошта, бацькі! Ідзе дзіця на свята – пацікаўцеся, на якое, што там будзе рабіць, што ведае. А то сядзяць у "Укантакце", а потым енчаць аб упушчэнні школы! З сябе пачынаць трэба! ***Наталля.***

Ірына, дрэнна тое, што людзей зганяюць на гэтыя "святы" без іх жадання. Калі не будзе сагнаных па загадзе школьнікаў і работнікаў бюджэтных арганізацый – што застанецца? Правільна – нічога, таму што нікому гэта нецікава і не трэба. Цікавыя падзеі самі прыцягваюць людзей і нікога зганяць не трэба, а гэта звычайная савецкая паказуха. ***Яўген.***

Наталля, маіх дзяцей там не было. Мае яшчэ маленькія, але я і мае бацькі расказваем па вайну і пра подзвіг народа сваім дзецям. Іх прадзед ужо, на жаль, у іншым свеце і не можа сам расказаць праўнукам пра свае ўспаміны ваенных гадоў, але засталіся яго медалі і ордэны. І мы, як можам, стараемся захаваць у нашых дзецях памяць пра дзядулю-героя. І я была б не супраць, калі б у школе маім дзецям давалі інфармацыю пра герояў Вялікай Айчыннай вайны, калі яны будуць школьнікамі. Вось так. А раз такая размова пайшла, я лічу, што ў школе абавязаныя былі не проста сагнаць дзяцей у кучу і ўсунуць ім партрэты ветэранаў, а даць інфармацыю, якая ідэя бессмяротнага палка, і пазнаёміць з тым, чые партрэты ў руках. Дзіця не вінаватае, аднак мне было б дзіка сорамна, калі б гэта было маё дзіця. А калі б я была настаўнікам, які даў яму партрэт ветэрана, але не даў падрабязнай інфармацыі, я згарэла б ад сораму. ***Юлія.***

Калі мы самі не выведзем нашых дзяцей на такое свята, паверце, абавязкова знойдуцца тыя, хто выведзе іх на "сваё" свята. ***Аляксандр.***

Даруйце! Абагульняць не буду, аднак паверце, у школах настаўнікі гавораць дзецям, куды яны ідуць, навошта і хто на партрэтах! Проста многім сучасным дзецям гэта не трэба! У адно вуха ўляцела, з другога – вылецела. ***Сняжана.***

# Дуда, свісцёлка, акарына, варган і пішчык гучалі ў ільянскай школе

ВІЛЕЙКА

**Ільянская школа імя Адама Грымаця ў чарговы раз прымала гасцей з Мінска. Да нас завіталі пісьменніца Аксана Спрынчан і музыкант Яраш Малішэўскі.**

Сустрэчу прымеркавалі да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання.

Госці наведалі нашы музеі "Вілейшчына літаратурная" і "Ільянскія далягляды". Дарэчы, народнаму музею "Вілейшчына літаратурная" сёлета споўнілася 25 гадоў.

Ужо чвэрць стагоддзя вучні і настаўнікі школы збіраюць па крупінках, захоўваюць і перадаюць іншым духоўную спадчыну Вілейшчыны.

На сустрэчы вучні пачулі не толькі вершы Аксаны Спрынчан, але і пазнаёміліся з некаторымі беларускімі народнымі музычнымі інструментамі, вядомымі і невядомымі.

Спачатку Яраш Малішэўскі расказаў пра дуду і паказаў, як трэба на ёй іграць.

Потым распавёў пра свісцёлку – інструмент, які гучаў 500 гадоў таму. У мястэчку Мір Гродзенскай вобласці на глыбіні трох метраў знайшлі гліняную скульптуру "коніка" – свісцёлку. Гэты інструмент доўгі час праляжаў у зямлі, але і сёння гучыць адмыслова.

Яшчэ адна новая назва для вучняў – акарына. Гэты музычны інструмент вырабляюць з гліны. Шмат гадоў таму наш беларускі майстар пабываў у Італіі, упадабаў гэты інструмент, падобны да галавы гусянят, і пачаў вырабляць у нас на Радзіме.

Магічным інструментам лічаць варган. Яго выкарыстоўвалі шаманы, магі, чарадзеі ў пэўных сваіх абрадах. Інструмент падобны да падкоўкі, робяць яго з металу. Сам па сабе інструмент не гучыць. Для гэтага патрэбны рот і горла музыканта, якія становяцца рэзанатарам.

Аказваецца, зрабіць музычны інструмент можна і з саломінкі. Ён называецца "пішчык", таму што пішчыць. Гучанне яго вельмі ўражвае замежнікаў.

На сустрэчы мелодыі чаргаваліся з вершамі, "смачнымі" загадкамі ад Аксаны Спрынчан. А ільянскі пісьменнік і краязнаўца **Уладзімір Кажамяка** падарыў гасцям сваю кнігу "Старожня і Сычоўка".

Закончылася сустрэча песняй пра чмяля, якую дзеці праспявалі разам з гасцямі. Госці пакінулі прыемныя ўражанні і падарункі музею.

**Валянціна ЯРАШОНАК, кіраўнік народнага музея "Вілейшчына літаратурная" Ільянскай сярэдняй школы імя Грымаця.**

## Крылатыя ваяры і начны штурм крэпасці: у Гальшанах зладзяць традыцыйны фестываль

АШМЯНЫ

Па словах арганізатараў, фестываль "Гальшанскі замак" зладзяць 20 мая ў Гальшанах на Ашмяншчыне. Яго прысвецяць 595-годдзю з часу ўступлення ў шлюб княжны і каралевы польскай **Соф'і Гальшанскай.**

У праграме – тэатралізаванае шэсце, горад майстроў, рыцарскія турніры, коннае шоу "Крылатыя ваяры ВКЛ".

Прапануюць таксама інтэрактыўны спектакль "Юр'я і Цмок", майстар-класы па сярэдневечных танцах, народных промыслах, хадзе на хадулях, выступленні беларускіх гуртоў.

Увечары абяцаюць феерверк і начны штурм крэпасці.

**Аддзел інфармацыі.**

## Пройдзе творчы вечар Аляксандра Яфімчыка

МАЛАДЗЕЧНА

17 мая ў 15:30 у малой зале музычнага каледжа імя Міхала Клеафаса Агінскага пройдзе творчы вечар выкладчыка музычнага каледжа кампазітара Аляксандра Яфімчыка.

Да вечара творца ўзяў эпіграф Уільяма Шэкспіра: "Толькі тыя, хто прыйшоў паглядзець вясёленькі фарс, будуць падманутыя".

У праграме – песні, вакальна-сімфанічная і камерная музыка.

Уваход свабодны.

**Аддзел інфармацыі.**




Гурт "Гутатэлі" з Лохаўшчыны. Аўгіня і Уладзіслаў разам з мясцовымі дзяўчаткамі, якія яшчэ толькі вучацца спяваць для публікі.



Гурт з Ракава "Гасцінец" радаваў старадаўняй музыкай, выступаў на сцэне, а таксама цягнуў у кола танцаў гледачоў.




На фэсце ганаравалі старажылаў і ўручалі падарункі толькі што прыйшоўшым на свет. Гэтага пухнатага зайца папрасілі перадаць Антону Сліжу, які нарадзіўся 30 сакавіка. Шчаслівы тата Вадзім.



Чалавек, без якога, як сказалі вядучыя, не адбываецца ні адно свята на Валожыншчыне. Вікенці Адамовіч, начальнік аддзела ідэалогіі, культуры і па справах моладзі чытае байкі.



Гарадзькаўскія хлопчыкі, якія паказалі зняты імі фільм пра сваю вёску, перад удзячнымі гледачамі. Знайсці гэта відэа можна праз наш сайт www.rh.by.

# У Гародзьках нарадзіўся новы фэст. На яго з'ехаліся суседзі

ВАЛОЖЫН

**У нядзелю, 7 мая, у Гародзьках прайшоў першы рэгіянальны фэст "Суседзі".**

Мястэчка месціцца на мяжы трох раёнаў: Валожынскага, Смаргонскага і Маладзечанскага. Адсюль і яго назва. Усе тут жывуць па суседстве.

– Адметнасцю фэста, – кажа загадчык школы мастацтваў у Гародзьках **Валер Язерскі**, – ёсць тое, што ініцыятыва правядзення фэсту была знізу, ад простых мясцовых жыхароў. А работнікам культуры засталося гэту ініцыятыву падтрымаць.

Каля чатырох гадзін самадзейныя і клубныя артысты з Маладзечаншчыны, Валожыншчыны пелі і танцавалі перад гародзькаўцамі і гасцямі, якіх на пляцоўцы перад школай мастацтваў сышлося больш за сотню.

А ў той самы час побач мясцовыя ўмельцы праводзілі школкі па вырабе гліńянага посуду, вучылі, як зрабіць паштоўкі з пацерак і лямцу, вялі майстар-класы па вырабе лялек... Працавала і веламайстэрня.

Выступалі артысты з Беразінскага Дома культуры – народны вакальны ансамбль "Беразіначка", гурт народнага гумару "Дубінскія фанабэры" з Дубіны, фальклорны ансамбль "Гасцінец" з Ракава, самадзейны гурт "Гутатэлі" з невялічкай вёсачкі Лохаўшчына і шмат яшчэ самых розных выступоўцаў.

Нечаканасцю для некаторых аматараў сучаснай беларускай музыкі стала і выступленне **Піта Паўлава**, саліста ў мінулым гуртоў N.R.M., KRIWI, які раптам прызнаўся, што ён самы сапраўдны мясцовы, бо мае домік і кавалак зямлі ў той самай Лохаўшчыне!

Завяршальным акордам быў паказ у актавай зале школы толькі што знятага мясцовымі хлапчукамі фільма пра Гародзькі. Вучыў іх кінарэжысёрскаму, апаратарскаму і журналісцкаму рамяству рэжысёр з Польшчы **Даніэль Кермут**.

Знайсці фільм аб Гародзьках можна праз сайт газеты www.rh.by.

**Мікола ГАЙДУК.**
**Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.**

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ДАХАВЫЯ РАБОТЫ** любой складанасці (металачарапіца, андулін, шыфер, кампазітная і гнуткая чарапіца). Рамонт старых дахаў. Аддзелка фасада сайдынгам, блокхаўсам, панэлямі ПВХ. Выезд, замер, дапамога ў выбары матэрыялу, дагавор, гарантыя. ІП Місюкевіч Я.В. УНП 691289699. Т. (8-029) 2567435.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• Добраўпарадкаванне пахаванняў, устаноўка помнікаў. ІП Нільва А.С. УНП 691880467. Т. (8-029) 3469417.*

• **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Права, справаводства, архівазнаўства, ідэалогія, паліталогія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапаможа напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741 (з 14-00 да 17-00 або з 21-30 да 23-30, штодзённа).*

• Мантаж, дэмантаж даху, кроквенная сістэма. Аддзелка дамоў, франтонаў сайдынгам. Кладка блокаў. Сцяжка падлогі, ламінат. Устаноўка агароджаў. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Бажко А.В. УНП 691888639. Т. (8-029) 6943243, (8-033) 3013300.*

• Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.У. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Кладка, дах, фундамент, аддзелка. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-0176) 734961, (8-029) 5024571.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. http://mircomputerov.by ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*

• Рамонт металічных дзвярэй. Змена знешняга віду. Рамонт, замена замкоў і фурнітуры. Уцяпленне. ІП Новікаў А.А. УНП 691899716 Т. (8-029) 6548129.*

• Рамонт пральных машын LG, INDESIT, ARISTON, ARDO, "АТЛАНТ", BOCSH, ZANUSSI, CANDY, ELEKTROLUX і інш. ПУП "Планета інтэлекту" УНП 191763743. Т. (8-033) 6228190. Уладзімір.*

• **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА.** Гарантыя. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Лайф (8-025) 9262376, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд на дом. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт халадзільнікаў, маразільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. у Маладзечне 733177, (8-029) 3395974.*

• Тратуарная пліткa, борт і іншае. Укладка. Дастаўка. ІП Юрэвіч У.У. УНП 691505215. Т. (8-044) 7168663, (8-029) 8761382.*

• Электрык. Замена праводкі. ІП Ганецкі С.Р. УНП 691503598. Т. (8-029) 8543788, (8-029) 9780431.*



## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• **БЛОКІ Г/С (ВЫТВОРЧАСЦІ СМАРГОНІ, ЗАБУДОВЫ), ЦЭГЛА. ДАСТАЎКА.** Прыватнае прадпрыемства "Бізнес-Дэталь" УНП 691516305. Т. (8-029) 6664889.*

• Вагонка для лазні (вольха), для дома (сасна). Дошкі для падлогі. Брус усіх памераў, блок-хаўс, імітацыя бруса. Дастаўка. ІП Жукоўскі З.А. УНП 692011094. Т. (8-029) 5090095, (8-029) 3811905.*

• **ВАГОНКА** (сасна, вольха), **ДОШКА ПАДЛОГІ, ЭЛЕМЕНТЫ ЛЕСВІЦ** і інш. у Маладзечне, вул. Гарадоцкая, 102. ПП "Маркціна Білд" УНП 690627804. Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*

• Труба азбеста-цэментная 100 мл, 14 м, 3,5 шт., шыфер прамы азбеста-цэмент., 4 шт., дзверы уваходныя двайныя з каробкай, масіў сасны б/у. Т. МТС(8-029) 7589705.

**Бытавая тэхніка**

• Халадзільнік "Мінск", б/у. Т. МТС (8-033) 6324401, (8-0176) 774221.

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Бульбасаджалка. Т. (8-029) 8462052.

• Трактар Т-40, навясное, прычэп. Т. Вэлком (8-029) 1991382.*

• Трактар, 2017 г.в., рухавік 16 к.с., бензін, добры стан, 1900 руб. Т. (8-029) 5039360.*

• Трактарны аднавосевы прычэп. Т. (8-01772) 33234, (8-044) 1023680.

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



• Абслугоўванне, наладжванне, рамонт спадарожнікавых антэн. ІП Буслаўскі А.М. УНП 691898750. Т. (8-033) 3494488.*

• **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ "ТРЫКАЛОР" – СКІДКІ! АКЦЫІ! АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ – ВЯЛІКІ ВЫБАР, НІЗКІЯ ЦЭНЫ.** ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ+, ЗАМЕНА СТАРЫХ ПРЫЁМНІКАЎ НА НОВЫЯ.** ГПУП "Ліцераль". УНП 690621436. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Каза з казлянятамі. Т. Вэлком 7125657.*

• Шчаняты нямецкай аўчаркі. Бацькі – адны рукі. Высокія адзнакі эксперта. Прышчэпленыя. Ветпашпарт. Т. (8-029) 7005236.

• Шчаняты нямецкай аўчаркі. Дата нараджэння 05.04.2017г. Шчаняты ядуць самастойна. Ёсць хлопчыкі і дзяўчынкі. Знаходзімся ў Вілейскім раёне. Т. (8-029) 8638088.

**Іншае**

• Зруб пад лазню 6х4. Т. (8-029) 9426958.*

• Кіёск гандлёвы. Т. (8-029) 6654868.*

• Туі каланавідныя "Смарагд" вышынёй 2,5 м, шаравідныя "Даніка" даўжынёй 0,7 м. Т. (8-044) 7896999.

### КУПЛЮ

**Сельгас-, будаўнічую тэхніку, абсталяванне**

• Матацыкл "Мінск", Мотаблок МТЗ. Т. (8-029) 6299208.*

• Мотаблок альбо міні-трактар, можна няспраўны. Т. МТС (8-033) 6041637.*

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

• **НОЎТБУК**, ЖК-тэлевізар, ЖК-манітор, сістэмны блок, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

**Антыкварыят**

• **АНТЫКВАРЫЯТ, ДОРАГА! Т. (8-029) 5744744.***

• **АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ, ГРАМАФОНЫ, АБРАЗЫ, МЭБЛЮ, ФАРФОР І ІНШЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ РЭЧЫ.** Т. (8-0176) 542987, (8-029) 6564854.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Бульбу буйную і сярэднюю. Т. (8-029) 7082011, (8-025) 7851202.*

• Запчасткі да маставых кранаў. Т. Вэлком (8-029) 6764425.*

• Кнігу "Памяць" розных рэгіёнаў. Т. (8-029) 5019550.*

• Кнігу "Памяць", розныя раёны. Т. (8-044) 7982430.*

### ІНШАЕ

• Ёсць прапіска. Т. (8-029) 5606607, (8-029) 3796140.*

## ПРАЦА

### ШУКАЮ ПРАЦУ

• Аддзелачныя работы. Уцяпленне. Т. (8-029) 2775694.*

# Як вучыліся ў гімназіі Тамаша Зана

МАЛАДЗЕЧНА

**Адкрыццё гімназіі ў Маладзечне ў 1922 годзе стала знамянальнай падзеяй. На той час у мястэчку жыло менш за 2000 жыхароў. І польская гімназія імя Тамаша Зана надавала яму пэўны прэстыж.**



Гімназісткі з гімназіі імя Тамаша Зана ў Маладзечне.

Фота забяспечана Аляксандрам БАБІЕМ.

Рашэнне аб адкрыцці ў Маладзечне васьмігадовай гімназіі сумеснага навучання прынялі на сойме гміны напрыканцы 1920 года.

Адзінай перашкодай, якая паўстала перад мясцовай польскай уладай, была адсутнасць прыстасаванага памяшкання для школы. Спачатку яе хацелі размясціць у фальварку Бухаўшчына. Але гаспадар маёнтка, пан **Тышкевіч**, не пагадзіўся.

## Дапамагалі ўлады, памешчыкі і таварыства разліву гарэлкі

У ліпені 1922 года мястэчка пакінула дзявятая польская дывізія, якая месцілася ў будынку былога кляштара і бліжэйшых дамах.

З гэтага часу і да 1939 года тут, на вуліцы Замкавай, і працавала польская гімназія. На рамонт памяшканняў выдзелілі 302 075 польскіх марак, прывезлі школьныя парты, сталы, іншую мэблю.

Вельмі дапамагло "Крэсовае таварыства разліву гарэлкі", якое выдаткавала на патрэбы гімназіі 500 000 марак. Памешчык **Уладзімір Чайкін** з Хоўхлава ахвяраваў 40 000 марак.

27 жніўня 1922 года абвясцілі запіс у гімназію. 22 верасня адкрылі тры першыя класы, а таксама падрыхтоўчы клас. Урачыстае адкрыццё зладзілі 5 кастрычніка 1922 года.

У першы навучальны год у гімназіі было 116 вучняў: 61 хлопчык і 55 дзяўчынак.

Першым дырэктарам быў **Людвік Адахоўскі**, у мінулым інспектар польскай гімназіі пры касцёле святой Кацярыны ў Пецярбургу. Ён скончыў гімназію ў Маскве і некаторы час вучыўся на гуманітарным факультэце Лазанскага ўніверсітэта ў Швейцарыі.

Але мясцовую ўладу гэты кіраўнік не вельмі задавальняў. Па-першае, чалавек прагрэсіўных поглядаў. Па-другое, не вельмі добра ведаў польскую мову. А па-трэцяе, нядрэнна ставіўся да ўсяго беларускага. На гэтай пасадзе Адахоўскі адпрацаваў два гады.

Нягледзячы на рознага роду складанасці, слабае матэрыяльнае забеспячэнне, жыццё гімназіі паступова ўваходзіла ў нармальнае рэчышча.

Арганізоўвалі публічныя канцэрты і літаратурныя вечарыны, ставілі спектаклі. Усе гэтыя мерапрыемствы праводзілі ў польскім патрыятычным духу, але тым не менш яны ажыўлялі жыццё мястэчка, стваралі маральны і духоўны клімат.

## Лаціна для вучняў чацвертага класа

15 сакавіка 1923 года гімназіі прысвоілі імя **Тамаша Зана** – навукоўца, які нарадзіўся ў Мясаце. Па задуме ініцыятараў, імя Зана павінна было звязаць гісторыю гімназіі з маладзечанскай шляхецкай школай, дзе калісьці вучыўся польскі паэт-рамантык і ўдзельнік вызваленчага руху супраць царскага самадзяржаўя.

Са справаздач відаць, што на пачатку працы ў гімназіі былі сур'ёзныя фінансавыя цяжкасці, цяжкасці з настаўніцкім складам. Не было патрэбнай мэблі і кніг у дапамогу настаўніку.

У 1924 годзе адкрылі чацверты клас. Дырэктарам стаў **Тадэвуш Яцуньскі**.

Ад 1925 года вырашылі пачаць паступовы перавод гімназіі на гуманітарны тып. Ужо ў 4 класе ўводзілі вывучэнне лацінскай мовы. Праз некаторы час ліквідавалі падрыхтоўчы клас.

Спрабавалі пераўтварыць гімназію ў гандлёвую школу або ў настаўніцкую семінарыю.

**Але бацькі жадалі пакінуць у горадзе гімназію. Гэтае жаданне і ўзяло верх.**

Гімназія атрымала статус дзяржаўнай гуманітарнай.

У 1925-1926 гадах з'явіўся пяты клас. Праз год адкрылі шосты і сёмы, яшчэ праз год – восьмы клас.

Да канца 1923 года ўсе памяшканні кляштарнага будынка аддалі для патрэб гімназіі.

У той час гімназія займала шэсць кабінетаў. У пяці з іх размяшчаліся класы, у адным – настаўніцкая і невялікі фізічны кабінет. Вокны выходзілі на паўночны бок, дзе ў двары расло шмат дрэў. Ад гэтага ў кабінетах было цёмна і вільготна.

## Гарцэры, гурткі, малебны: як арганізоўвалі выхаваўчую работу

Яшчэ ў першыя гады ў гімназіі стварылі гарцэрскую жаночую дружыну – польскую скаўцкую моладзевую арганізацыю. Ёй кіравала настаўніца **Смуроўская**, а з 1930 года – **Фальтынава**.

На Каляды гарцэркі ладзілі для дзяцей абрадавыя лялечныя спектаклі, праводзілі танцавальныя вечары.

Асабліва ўрачыста ў гімназіі праходзілі вечары, прысвечаныя памяці Тамаша Зана. Праводзіліся вялікія канцэрты, спявалі песні, чыталі вершы, гаварыліся гарачыя прамовы ў гонар Зана.

У красавіку 1926 года гімназію наведаў акруговы школьны інспектар. Ён застаўся задаволены ўзроўнем яе працы.

У гэтым жа годзе ў гімназіі стварылі літаратурна-навуковы гурток, а крыху пазней – гістарычны і краязнаўчы. Кіраваў ім **Антоні Анцэвіч**.

Адчынілі гімназічную бібліятэку і дапаможную касу для набыцця падручнікаў і школьных прыладаў.

У снежні 1926 года ў гімназіі арганізавалі ўрачыстае святкаванне 900-годдзя каранацыі польскага князя і караля Польшчы **Баляслава Смелага**. Быў малебен, урачысты канцэрт, тэатральнае прадстаўленне. На свяце прысутнічаў віленскі ваявода **Уладзіслаў Раткевіч**.

**Працяг будзе.**

**Аляксандр БАБІЙ, вучань маладзечанскай гімназіі №3.**

# Выпускніцы школы і садка: каго танней сабраць на свята

ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА

**У жыцці Анастасіі Хаванскай з Ілы і Варвары Ярашонак з Маладзечна набліжаецца важная падзея – выпускны.**

Варвары рыхтавацца да свята крыху прасцей: ёй не трэба, як Насці, здаваць выпускныя экзамены і думаць пра надыходзячае тэставанне. Справа ў тым, што Анастасія – выпускніца 11 класа ільянскай школы, а Варвара сёлета заканчвае дзіцячы садок.

І ўсё ж нягледзячы на значную розніцу ва ўзросце, ёсць тое, што аб'ядноўвае дзяўчат. Прыгожа выглядаць на ўласным выпускным аднолькава хочацца як ў шэсць, так і ў сямнаццаць.



**Анастасія Хаванская з ільянскай школы: вырашылі абысціся без банкета**

– Ох, выпускны! – пачынае эмацыйны расповед выпускніца Ільянскай сярэдняй школы імя Грымаця Анастасія Хаванская. – Адзінаццаць год чакала я гэтага дня!

Да выпускнога ў школе яшчэ больш за месяц. Аднак Насця і яе аднакласнікі ўжо пацiху пачалі рыхтавацца.

Па словах дзяўчыны, часта яны з аднакласнікамі збіраюцца разам і абмяркоўваюць усё да дробязяў: хто будзе ў якой сукенцы, з якой прычоскай. Сукенку Насця на пракат браць не хоча, будзе купляць. Таму, на думку дзяўчыны, убор павінны быць вельмі ўрачыстым. Хочацца яшчэ не раз апрануць яго пасля выпускнога.

Насця супраць адкрытых сукенак і дужа яркага макіяжу. З прычоскай яшчэ не вызначылася. Кажа, магчыма сама ўкладзе валасы. Ужо не раз Насця рабіла гэта і сабе, і сяброўкам. Атрымоўвалася нядрэнна. А калі захочацца нечага незвычайнага, запішацца да цырульніка. А вось з макіяжам дзяўчына ўжо вызначылася: ён будзе лёгкім і пяшчотным.

Залу для выпускнога вечара ўпрыгожаць шарамі: сінімі і белымі. Стужкі для выпускнікоў ужо замовілі: яны будуць сінія з сярэбраным надпісам.

Адзінаццаты клас ільянскай школы вырашыў абысціся без банкета пасля выпускнога. Пасля такога цяжкага дня мы стомімся і будзе ўжо не да весялосці, тлумачыць Насця. А традыцыйны світанак сустрэнем пасля тэставання.

**Чаго Насця чакае ад выпускнога? Выключна станоўчых эмоцый.**

– Гэта ж будзе апошняе баўленне часу з аднакласнікамі, – з лёгкім сумам кажа Насця. – Канешне, мы і пасля выпускнога будзем сустракацца і сябраваць, але такіх зносін, як цяпер, ужо не будзе.



**Варвара Ярашонак з маладзечанскага дзіцячага садка: банкет будзе!**

Выпускныя ў садках пачнуцца ўжо ў канцы мая. Таму ў прыгажуньдашкольніц часу на зборы засталося менш.

Шчымлівыя песні і вершы пра дзіцячы сад ужо вывучылі. Самы час думаць пра знешні выгляд.

Сукенка ў Варвары ёсць. Прыгожая, пышная, з гарсэтам, колеру "пырскі шампанскага". І хоць яна ўжо была ў гэтым уборы на адным ранішніку, мама ўгаварыла надзець тую ж сукенку і на выпускны. Усё ж эканомія ў сямейным бюджэце.

Абутак таксама набылі крыху раней, з разлікам на тое, што дзяўчынка паносіць яго і да, і пасля выпускнога. Завершаць вобраз белыя гольфы.

Хаця, не. Яшчэ ж прычоска. Яе мама зробіць сама з дапамогай бігудзі і, самае важнае, лаку для валасоў, які пафарбуе пасмачкі ў ружовы колер.

Залу аздобяць папяровымі ўпрыгожваннямі, набудуць гелевыя шары, каб дзеці разам з выхавальніцай пасля свята з ганка дзіцячага садка запусцілі іх у нябёсы.

Ад выпускнога Варвара чакае весялосці і падарункаў. А яшчэ, у адрозненне ад выпускнікоў школы, у дашкольнікаў будзе банкет!

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Выпускніца школы




Усяго: 273,50 – 301 рубель

## Выпускніца садка




Усяго: 109-146 рублёў.

ГІСТОРЫЯ

# Армія Краёва ў Налібоцкай пушчы і яе наваколлі

ВАЛОЖЫН

**На мяжы 1939 – 1940 гадоў на тэрыторыях даваеннай Польшчы быў створаны падпольны Саюз узброенай барацьбы (далей – СУБ), які быў папярэднікам Арміі Краёвай.**



Фота забяспечанае Уладзімірам ПУЧКОВЫМ.

Падпісанне пагаднення паміж СССР і Польшчай. Лондан, 30.07.1941 года. Сядзяць злева направа: Уладзіслаў Сікорскі, Энтані Ідэн, Уінстан Чэрчыль, Іван Майскі.

### Структура СУБ

Акрамя СУБ былі створаныя і іншыя польскія баявыя падпольныя фарміраванні. Гэта былі баявыя атрады розных палітычных партый даваеннай Польшчы. Фактычна, кожная палітычная партыя Польшчы мела свае ўзброеныя фарміраванні. Аднак самай уплывовай сярод іх быў СУБ. Яе арганізацыйная структура была наступная.

Тэрыторыя даваеннай Польшчы дзялілася на абшары – некалькі ваяводстваў. Абшары – на акругі – тэрыторыі былых ваяводстваў. Акругі – на інспектарыяты – некалькі былых паветаў. Інспектарыяты – на абводы – тэрыторыі былых паветаў. Нізавой структурай СУБ з'яўлялася "пляцуўка", якая складалася з некалькіх груп, ці "каморак", у якіх уваходзілі тры або пяць чалавек.

Першапачаткова было ўтворана 5 абшараў і 17 акруг. На тэрыторыі Заходняй Беларусі былі створаныя Віленская, Навагрудская, Палеская акругі.

Валожынскі раён увайшоў у Навагрудскую акругу, абвод "Валожын" пад кодавай назвай "Бжоза" – "Бяроза". Апошні, у асноўным, супадаў з даваенным Валожынскім паветам, за выключэннем трох далучаных гмін Лідскага павета і дзвюх гмін Валожынскага ("пляцуўка" – "Івянец"), якія ўвайшлі ў абвод "Стоўбцы".

Тэрыторыя сучаснага Валожынскага раёна ад Ракава да Яршэвічаў уключна ўваходзіла ў 1921-1939 гадах у склад даваеннага Маладзечанскага павета. Абвод "Маладзечна" (кодавая назва "Mleko" – "Малако") уваходзіў у Віленскую акругу.

Такім чынам, тэрыторыя сучаснага Валожынскага раёна была ў складзе двух абводаў ("Валожын", "Стоўбцы") Навагрудскай і аднаго абвода ("Маладзечна") Віленскай акругі СУБ.

### Удары ад НКВД

З дапамогай хутка створанай сеткі шпіёнаў НКВД перыядычна наносіў адчувальныя ўдары створаным групам супраціву. Да ліпеня 1940-га ў Заходняй Беларусі было арыштавана 8 815 членаў польскай канспіратыўнай сеткі. Арышты адбыліся у Лідзе, Навагрудку, Валожыне, Баранавічах.

Шмат радавых членаў арганізацыі было арыштавана НКВД і падчас чатырох дэпартацый мясцовага насельніцтва на працягу 1940 – 1941 гадоў.

Тым не менш ліквідаваць структуры польскага руху супраціўлення органам НКВД у дадзены перыяд не ўдалося. Яны працягвалі існаваць і дзейнічаць. Канспіратыўныя структуры дзейнічалі ў Валожыне, Трабах, Ліпнішках.

### Як валожынцы апынуліся ў арміі Андэрса

У адносінах паміж савецкім кіраўніцтвам і польскім лонданскім урадам у эміграцыі Уладзіслава Сікорскага (1881-1943) пасля нападу Германіі на СССР адбыліся змены. 30 ліпеня 1941 савецкі пасол у Лондане Іван Майскі (сапраўднае прозвішча Ляхавецкі) (1884-1975) і генерал Уладзіслаў Сікорскі падпісалі палітычнае пагадненне аб нармалізацыі адносінаў паміж урадамі СССР і Польшчы і сумеснай барацьбе з Германіяй.

Згодна з гэтым пагадненнем, усе арыштаваныя органамі НКВД – НКДБ палякі (і беларусы) павінны былі быць вызваленыя з месцаў зняволення і мець магчымасць уступіць ў польскую армію генерала Уладзіслава Андэрса (1892-1970). Некалькі соцень валожынцаў апынуліся ў арміі Андэрса, і ў 1942 годзе ў складзе 5-й Крэсавай пяхотнай дывізіі ў Палесціне. Аднак хоць СССР і дэнансаваў савецка-германскае пагадненне аб межах, заключанае ў 1939 годзе, адмовіцца ад занятых тэрыторый не жадаў. На Налібоцкую пушчу прэтэндавалі як палякі, так і беларусы.

### Армія Краёва

У лютым 1942 года СУБ быў перайменаваны ў Армію Краёву (далей – АК). Да лета 1942 года было скончанае фарміраванне штабоў акруг, інспектарыятаў, абводаў, раёнаў.

Паняцце "Навагрудская акруга Арміі Краёвай" у сэнсе адміністрацыйна-тэрытарыяльнага дзялення не адпавядала цяперашняму навагрудскаму раёну, а ахоплівала вялізную тэрыторыю былога Навагрудскага ваяводства альбо (прыкладна) даваеннай Баранавіцкай вобласці, у складзе якой былі 23 раёны: Юрацішкі – на поўначы, Ляхавічы – на поўдні, Шчучын – на захадзе, Івянец і Валожын на ўсходзе.

Штаб акругі знаходзіўся ў Лідзе, а ўзброеныя фарміраванні АК дыслакаваліся пераважна на правабярэжжы Нёмана, у сучасных Іўеўскім, Валожынскім, Стаўбцоўскім, Навагрудскім раёнах. Левабярэжжа Нёмана кантралявалі пераважна савецкія партызаны.




Выява забяспечаная Уладзімірам ПУЧКОВЫМ.

Карта-схема Навагрудскай акругі Арміі Краёвай. 1943 – 1944 гады.

Арганізацыйная сістэма Навагрудскай акругі прадугледжвала падзел на "абводы", адпаведныя паветам у рамках польскага адміністрацыйна-тэрытарыяльнага дзялення да 17 верасня 1939 года. У сваю чаргу "абводы" дзяліліся на "раёны" і "пляцоўкі", на базе якіх пазней ствараліся роты і ўзводы.

"Раён" ахопліваў некалькі гмінаў (сельсаветаў) і адпавядаў адміністрацыйна-тэрытарыяльнаму дзяленню савецкага часу. "Пляцоўка" ахоплівала, як правіла, адну гміну (сельсавет). Да мая 1942 года Навагрудская акруга ахоплівала пяць паветаў: Шчучынскі, Лідскі, Стаўбцоўскі, Навагрудскі і Валожынскі. Непасрэдна ў Налібоцкай пушчы знаходзіліся "абводы" "Стоўбцы" і "Валожын".

Пазней абвод "Валожын" быў падзелены на "Валожын – Іўе" (пляцоўкі "Іўе", "Суботнікі", "Ліпнішкі") і "Валожын – Юрацішкі". У 1943 годзе ў Навагрудскай акрузе існавала ўжо восем "абводаў": Шчучынскі, Лідскі, Валожынскі, Навагрудскі, Стаўбцоўскі, Слонімскі, Баранавіцкі, Нясвіжскі.

Працяг будзе.

**Уладзімір ПУЧКОЎ,**
**навуковы супрацоўнік Валожынскага краязнаўчага музея.**

КАЛЯНДАР

### 9 МАЯ

**125 гадоў** з дня нараджэння Міхаіла Мялешкі (1892 – 1941), беларускага гісторыка, архівіста, этнографа, публіцыста. Нарадзіўся ў в. Скары, цяпер Мядзельскі раён. Даследаваў праблемы прыгоннага права, падзеі 1863 – 1864 і 1905 – 1907 гадоў у Беларусі. Удзельнічаў у арганізацыі архіўнай справы, этнаграфічных і краязнаўчых даследаванняў. Друкаваўся ў газетах "Наша ніва", "Вольны шлях", "Дзянніца", "Савецкая Беларусь" з публіцыстычнымі артыкуламі пад псеўданімам Міхалка Скарэўскі. Дачка, Людміла Сакалова, жыве ў Санкт-Пецярбургу. Яго ўнучка – Наталля Спічко, кампазітар, аўтар вакальнага цыклу "Самарский туесок", які гучаў па ўсесаюзным радыё ў выкананні народнага артыста СССР Артура Эйзена. Памёр ссыльным у Бірску над Волгай.

### 14 МАЯ

**110 гадоў** з дня нараджэння **Іосіфа Жыновіча** (сапр. Жыдовіч) (1907 – 1974), цымбаліста, дырыжора, кампазітара і педагога, народнага артыста Беларусі, народнага артыста СССР.

### 15 МАЯ

**135 гадоў** з дня нараджэння **Уладзіслава Галубка** (1882 – 1937), драматурга, рэжысёра, акцёра, мастака, першага народнага артыста Беларусі (1928). Аўтар каля 40 п'ес з жыцця беларускага народа. У 1920 годзе арганізаваў у Мінску трупу беларускіх артыстаў – глыбока самабытны, непаўторны тэатр, выхаваў вялікую групу беларускіх акцёраў. Таксама працаваў як мастак-дэкаратар, быў вядомы як пейзажыст. У канцы 1920-х на яго пачаліся ганенні і абвінавачванні ў нацыяналізме. У 1931 годзе адхілілі ад мастацкага кіраўніцтва тэатрам, не далі працаваць там дырэктарам і нават акцёрам. Як і ў многіх лепшых прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі таго часу, жыццё Галубка скончылася ў 1937 годзе. Рэабілітаваны ў 1957 годзе. У 1993 годзе завулак Танкістаў у Маладзечне перайменавалі на вуліцу Уладзіслава Галубка.

***

**1792 год.** Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, дзяржаўны і палітычны дзеяч Рэчы Паспалітай , апошні кароль польскі і вялікі князь літоўскі (1764 – 1795) зацвердзіў герб горада Ашмяны. 5 жніўня 1800 года герб быў скасаваны. 9 чэрвеня 1845 года гораду нададзены другі герб (праіснаваў да 1917).

Падрыхтавала
**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Невядомы дыягназ і безбар'ернае асяроддзе ў вёсцы: інвалід з Ілы расказаў пра сваё жыццё

ВІЛЕЙКА

**Віктар сустракае мяне на сваёй кухні. Просіць прабачэння за тое, што ў хаце не зусім прыбрана. А мне няёмка чуць такія словы ад адзінокага інваліда-вазочніка.**

Праходзім у пакой. Гаспадар адчыняе дзверы, тузануўшы за шнурок. Такія "прылады" – на кожнай дзвярной ручцы.

Мой субяседнік, **Віктар Філістовіч**, жыве ў Ілы на Вілейшчыне. Месца прыгожае. Па адзін бок рака Ілія і лес, па другі – велічны касцёл, збудаваны ў пачатку 20 стагоддзя.

Толькі вось дом, дзе пакуль яшчэ знаходзіцца Віктар Філістовіч, ужо не яго.

– Мама перад смерцю падарыла дом маёй сястры, вось і жыву цяпер, нібы на кватэры, – дзеліцца набалелым мужчына.

Кажа, што ў любы момант можа аказацца на вуліцы. На пачатку года, вярнуўшыся з бальніцы, мусіў нейкі час зімаваць без печкі. Яе разбурыла сястра. Кажа, удзячны супрацоўнікам Ільянскага сельсавета, які дапамог скласці печку па-новаму.

### Не ведаю свой дыягназ

Да пэўнага часу мой субяседнік на здароўе не скардзіўся. Як большасць вяскоўцаў, шмат чаго рабіў па гаспадарцы. 15 год працаваў у аддзяленні сувязі. Устанаўліваў і рамантаваў тэлефоны людзям у Ілы і ў Вілейцы. Год даглядаў хворую маці, у якой у 2010 годзе здарыўся інсульт. Гадаваў дзяцей: сына і дачку.

У мяне адразу ўзнікае пытанне, ці ёсць нейкая падтрымка інваліда з боку дзяцей.

– Ды што вы!.. – махнуў рукой мой субяседнік, – дачка яшчэ школьніца, з мамай жыве, чым яна дапаможа?

А старэйшы сын жыве ў Мінску. Гадуе чацвярых дзяцей, але не мае працы. Таму яму, па словах Віктара, самому патрэбная дапамога.

Па словах мужчыны, які ад 2011 года ў інвалідным вазку, дактары самі дакладна не ведаюць, што ў яго за хвароба. Пачалося ўсё з таго, што яму зрабілі пункцыю на пазваночніку. І ў хуткім часе, аднойчы вясновым ранкам, ён прачнуўся і проста не змог устаць з уласнай канапы.

Вельмі дарэчы прыехаў сваяк, які адразу ж павёз яго ў бальніцу ў Вілейку. З Вілейкі – у Бараўляны.

– Дактары агледзелі мяне, – прыгадвае Віктар. – І дыягназ вызначылі адным словам – "позна". Не думалі, што дажыву да раніцы.

Тут, у Бараўлянах, Віктар перанёс адну аперацыю, а праз тры дні другую. Успамінае, як хірург, што рабіў аперацыю, сказаў, што 26 красавіка Віктар можа лічыць другім днём нараджэння.

### Пра пандусы ў вёсцы і ў горадзе

Віктар выязджае на вазку на вуліцу, набывае прадукты ў вясковых магазінах і на рынку.

– Першы час куляўся на вазку, – прыгадвае Віктар. – Калі звалюся, тады па мабільніку тэлефанаваў сваім хлопцам, з якімі разам працаваў. Яны прыязджалі і падымалі мяне.

Па словах Віктара, у накірунку безбар'ернага асяроддзя, пра якое цяпер так шмат пішуць, яшчэ працаваць і працаваць. Добра, што цяпер у Ілы ёсць зручныя пандусы, каб заехаць у паліклініку, на пошту, у сельсавет, школу.

– А вось неяк паехаў у Вілейку, каб падключыць мабільны тэлефон, – успамінае інвалід. – Там з-за адсутнасці пандусаў так зваліўся, што два тыдні ў бальніцы праляжаў.

Ёсць пандусы і на ганку дома, дзе жыве Віктар. Тут дапамог дырэктар ільянскай школы **Ігар Юшко**. Паклалі і замацавалі на прыступках некалькі дошак – вось і пандусы. У вясковым прыватным доме гэта зрабіць куды лягчэй і танней, чым у гарадской шматпавярхоўцы.

Некалькі разоў на тыдзень да Віктара прыходзіць сацыяльны работнік, крыху дапамагае па гаспадарцы. Але пераважна мужчына прызвычаіўся рабіць усё сам.

Ён паліць печку, гатуе ежу на электрапліце, мые бялізну ў аўтаматычнай пральнай машыне.



Інвалід-вазочнік Віктар Філістовіч з Ілы. Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

### Дапамог зварот да земляка-намесніка міністра

Старэнькі камп'ютар падключаны да інтэрнэта. Тут мужчына глядзіць навіны і чытае пра розныя прыстасаванні для інвалідаў-вазочнікаў. Часам нешта падказвае іншым "сябрам па няшчасці".

> **Перапісваемся, дзелімся інфармацыяй, досведам. Каму што пашчасціла дастаць з патрэбных для інваліда прыладаў, дапамагаем адзін аднаму.**

Увесь 2012 год Віктар праляжаў. У 2013 годзе, дзякуючы таму, што быў на прыёме ў намесніка міністра аховы здароўя **Дзмітрыя Піневіча**, які, дарэчы, таксама ільянец, трапіў на рэабілітацыю ў Аксакаўшчыну.

– Там дактары пыталіся, чаму прыехаў так позна, – распавядае інвалід.

Аказалася, што за той час, які Віктар правёў у ложку, яго стан маглі б значна палепшыць. Але станоўчы вынікі ўсё ж з'явіліся. У Аксакаўшчыне мужчына быў чатыры разы. Тут 200 метраў ён ужо мог прайсці на сваіх нагах з дапамогай хадуноў для інвалідаў.

Калі Віктар адчуў сябе крыху лепш, вырашыў стварыць у Ілы таварыства інвалідаў. Рабіў гэта, каб быць нечым занятым, каб не пачаць піць ад безвыходнасці, прызнаецца мужчына.

### Як працавала вясковае таварыства інвалідаў

У таварыства ўвайшло 18 інвалідаў-вазочнікаў з Ілы і навакольных вёсак. Людзі плацілі ўнёскі, а ўзамен атрымоўвалі частковае вырашэнне праблем і гуманітарную дапамогу. За "гуманітаркай" ездзілі ў маладзечанскае таварыства інвалідаў, – распавядае Віктар. У яго абавязкі ўваходзіла знайсці машыну з кіроўцам, заправіць яе, даставіць рэчы для інвалідаў.

Цяпер кіраваць таварыствам Віктар не можа: шмат часу праводзіць у бальніцах, з'явіліся праблемы са спінай, трэба рабіць яшчэ адну аперацыю.

Старшыня маладзечанскага таварыства інвалідаў **Васіль Таркан** памятае Віктара. Добры чалавек, без лішняй патрабавальнасці, ахарактарызаваў Віктара старшыня.

Знаходжанне ў нейкай сацыяльнай установе, на думку Віктара, не мае сэнсу. Гэта раней ён не мог нават нешта падняць, калі звалілася на падлогу, а цяпер цалкам можа сябе дагледзець.

Але і жыць у пастаянным адчуванні, што ні сёння, дык заўтра апынешся на вуліцы, таксама цяжка. Віктар марыць пра ўласнае жыллё. І магчымасць ёсць.

### Трэцяя частка пенсіі ідзе на лекі

Ад былой жонкі засталася палова дома тут жа, у Ілы. Жыллё знаходзіцца недалёка ад цэнтра: побач і рынак, і магазіны, і паліклініка, недалёка аптэка. Але дом у занядбаным стане. Патрэбны добры рамонт, водаправод, каналізацыя. Плюс афармленне дома і ўчастка. А гэта, як вядома, грошы.

З пенсіі 300 рублёў 100 штомесячна ідзе на лекі. Таму Віктар баіцца, што апынецца на вуліцы раней, чым зможа падрыхтаваць дом.

За час, праведзены на вазку, мужчына нацярпеўся прыніжэнняў. Асабліва крыўдзілі словы кшталту "вам жа першую групу далі, чаго вы яшчэ хочаце?"

– Кажуць, цяпер Упраўленнем сацыяльнай абароны ў Вілейскім райвыканкаме добры чалавек загадвае, хачу трапіць да яго на прыём, – гаворыць Віктар. – Толькі вось з транспартам пакуль ніяк праблему не вырашу.

Вядома ж, у вёсцы якраз цяпер пасяўная.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99

## З Дэкларацыі аб правах інвалідаў ААН

**Інваліды маюць права на:**

– павагу іх чалавечай годнасці. Якія б ні былі паходжанне, характар і сур'ёзнасць калецтваў, інваліды маюць тыя ж правы, што і іх суграмадзяне таго ж узросту, што ў першую чаргу азначае права на здавальняючае жыццё.

– меры, неабходныя для таго, каб даць ім магчымасць набыць як мага большую самастойнасць.

– медыцынскае, псіхічнае або функцыянальнае лячэнне, уключаючы пратэзныя і артапедычныя апараты, на аднаўленне здароўя і стану ў грамадстве, прафесійную падрыхтоўку, на аднаўленне працаздольнасці, на дапамогу кансультацыі і паслугі па працаўладкаванні, іншыя віды абслугоўвання, якія дазваляюць ім максімальна праявіць свае магчымасці і здольнасці.

– эканамічнае і сацыяльнае забеспячэнне і на здавальняючы ўзровень жыцця.

# Невідушчы выкладчык з Маладзечна стварыў дадатак "Камасутра для невідушчых"

МАЛАДЗЕЧНА

**У 2014 годзе невідушчы выкладчык з Маладзечна Аляксандр Еўдакімаў спрычыніўся да распрацоўкі мабільнага дадатку, які пры навядзенні камеры распазнаваў бы грошы і тым самым палягчаў жыццё слабавідушчым альбо невідушчым людзям.**

Мужчына знайшоў такую праграму, аднак яна распазнавала толькі долары і еўра. Ён звярнуўся да распрацоўшчыкаў, каб тыя ўнеслі змены і праграма магла распазнаваць іншыя грошы. Распрацоўшчык адмовіўся, але сказаў, што гэта можа зрабіць сам Аляксандр, падзяліўся кодамі. На прапанову адгукнуўся праграміст з Адэсы Алег Тайструк. Ён перапісаў коды і дапоўніў праграму.

На сёння праграма распазнае 80 валют і палягчае жыццё чатыром тысячам карыстальнікаў. Дадатак не патрабуе падключэння да інтэрнэта.

На тое, каб запусціць тэставую версію, пайшлі два месяцы. З першага дня дэнамінацыі праграма паспяхова распазнае банкноты новага ўзору. Паралельна з гэтым апошнія два гады вядзецца праца над глабальным абнаўленнем усёй праграмы.

Дадаткам можа карыстацца жыхар любой краіны бясплатна. Аднак вы можаце купіць платную версію, якая каштуе да 5 долараў, і тым самым падзякаваць распрацоўшчыкам за працу.

### Задума стварыць камасутру прыйшла за ранішняй кавай

На гэтым сумесная праца Аляксандра Еўдакімава і Алега Тайструка не скончылася.

– Неяк раніцай за кавай мне прыйшла ў галаву неверагодная ідэя, – дзеліцца думкамі Аляксандр. – А чаму б не стварыць забаўляльны дадатак. Цяпер палепшылі жыццё невідушчым людзям: створана шмат фільмаў, якія расказваюць, што адбываецца на экране, шмат аўдыё. І толькі адна тэма ў постсавецкіх краінах нібы наўмысна абмінаецца – сэксуальныя адносіны. У той жа час гэта вельмі важна для любога чалавека як з псіхалагічнага боку, так і фізіялагічнага. І я вырашыў стварыць інструкцыю па мастацтве кахання, па-іншаму, камасутру для невідушчых.

Гэты праект задумваўся як дадатак да тэлефонаў і планшэтаў.

У задачы Аляксандра ўваходзіла стварыць тэкставую і апісальную часткі, Алег Тайструк павінны быў тэхнічна ўвасобіць задуму ў жыццё.

– Трэба зазначыць, што большая частка камасутры – гэта філасофія кахання, сэксуальных адносінаў, а ўжо потым тэхнічная частка, апісанне разнастайных поз, – тлумачыць вынаходнік. – Я ж, працуючы над праектам, пайшоў у зваротным кірунку, больш звыклым для разумення людзей: пачаў з тэхнікі, аповеду пра позы, а ўжо потым палічыў правільным углыбляцца ў філасофію.



Дадатак Blind-droid Kamasutra можна знайсці па такой выяве ў праграме Play Market.



Фота Галіны СУДНІКОВІЧ

Аляксандр Еўдакімаў, выкладчык музычнай літаратуры маладзечанскага музычнага каледжа. Стварыў дадатак "Камасутра для невідушчых", якім можна карыстацца з дапамогай планшэта ці тэлефона.

### Атрымаў каля 600 картак з апісаннем поз

Першапачаткова Аляксандр знайшоў тэксты адпаведнай тэматыкі, сярод іх індыйская кніга "Галіна персікаў", старадаўнія кітайскія і японскія трактаты па мастацтве кахання, а таксама сучасныя інструкцыі. Напачатку Аляксандр выбраў апісанні разнастайных поз, выпісаў іх на карткі. Калі ўлічыць, што многія позы з розных крыніц былі аднолькавыя, атрымалася каля 600 апісанняў.

– Адразу ж я перакладаў карткі на англійскую мову, – распавядае малады чалавек. – Гэта абумоўлена тым, што дадатак задумваўся платным. Рускамоўныя карыстальнікі больш кансерватыўныя, калі закранаецца асабістае жыццё, а тым больш яго інтымная частка. Таму разлічваць, што будуць вялікія продажы, не даводзілася. Каб прадаць дадатак, варта было працаваць з міжнароднай мовай – англійскай. Нашы меркаванні пацвердзіліся: большая частка замоваў была менавіта з замежжа. Набывалі праграму таксама людзі з Расіі, Крыма, некалькі чалавек з Мінска.

На тэкставую частку ў Аляксандра пайшлі два месяцы, ліпень і жнівень 2015 года. Далей Алег Тайструк пачаў працаваць над распрацоўкай праграмы, якая з'явілася ў продажы летась у лістападзе.

Дадатак каштуе 5 долараў. За пяць месяцаў работы праграмы ўдалося атрымаць 250 долараў. Гэта значыць, што праграму набылі 50 чалавек.

Невялікую суму даходаў Аляксандр звязвае з тым, што няшмат невідушчых людзей карыстаюцца банкаўскімі карткамі, тым больш, нямногія вырашаюць выдаткаваць грошы на мабільны дадатак.

Тэставаў праграму на знаёмых са зрокам

Адразу ж пасля з'яўлення праграмы ў продажы пачаліся рознагалоссі: некаторыя гаварылі, што праграма – пустая трата часу, але праз некаторы час цікавасць прамагала, і карыстальнікі набывалі яе. Іншыя, наадварот, з захапленнем успрынялі з'яўленне такога прадукту.

– У дачыненні да гэтай праграмы я без лішняй сціпласці магу сказаць, што яна зроблена вельмі якасна і адпрацаваная, – адзначае Аляксандр. – Перад тым, як запусціць дадатак, я пратэставаў яго на знаёмых, якія маюць зрок. У праграме няма карцінак – яны непатрэбныя невідушчаму, толькі апісанне. Даючы праслухаць яго, пытаўся ў знаёмых, ці ўсё зразумела. Адказы былі станоўчыя.

### Як працуе дадатак

Калі адразу адкрываецца "Камасутра для невідушчых", іграе спакойная рамантычная музыка, якая павінна настроіць чалавека на адпаведны лад. Пры жаданні музычныя кампазіцыі можна замяніць на тыя, якія падабаюцца вам.

Усе дзеянні пры націсканні на экран агучваюцца. Пры гэтым можна выбраць голас, які падабаецца больш.

Для зручнасці карыстальніка прадугледжаная зручная сістэма навігацыі. Можна адсартаваць позы па кнігах, катэгорыях, узроўні складанасці, прагледзець іх у алфавітным парадку, выбраць толькі для актыўных жанчын альбо толькі для актыўных мужчын.

Калі нейкая поза вам спадабалася і вы хацелі б да яе вярнуцца праз некаторы час, яе можна дадаць у закладкі.

– У праграме ёсць элемент нечаканасці, – раскрывае сакрэт Аляксандр Еўдакімаў. – Калі страсянуць тэлефон, дадатак у адвольным парадку выбірае позу.

Адной з частак дадатка з'яўляецца сэрвіс знаёмстваў. Чалавек, які ўсталёўвае праграму, зможа зарэгістравацца і пакінуць свае каардынаты, інфармацыю пра тое, якога партнёра шукае. Дадатак можа адсочваць, чым цікавіцца пэўны карыстальнік і ў залежнасці ад інтарэсаў дапаможа пазнаёміцца з іншай асобай.

Пакуль у сэрвісе зарэгістраваныя каля 15 чалавек.

– Нашу прыладу немагчыма ўзламаць, скрасці, – расказвае распрацоўшчык. – Яна мае высокую ступень абароны. Недасведчаныя хакеры не змогуць гэтага зрабіць, а дасведчаныя проста не будуць гэтым займацца, бо цана за дадатак невялікая.

Дадатак можна спампаваць у праграме Play Market, ён называецца Blind-droid Kamasutra (з англійскага Blind – сляпы, droid – назва аперацыйнай сістэмы, Kamasutra – назва кнігі).

### Дапаможа невідушчым прасцей гатаваць ежу

У Аляксандра Еўдакімава вялікія планы на будучыню.

Мужчына працуе выкладчыкам музычнай літаратуры ў каледжы імя Агінскага. Пасля таго, як ён прыме экзамен у навучэнцаў, самога чакае іспыт. Сёлета Аляксандр заканчвае аспірантуру ў расійскай акадэміі музыкі імя Гнесіных, у чэрвені будзе абараняцца.

Пасля мужчына плануе папрацаваць яшчэ над адным дадаткам.

– Гэта будзе кулінарная кніга, – дзеліцца планамі на будучыню вынаходнік. – Пры гэтым рэцэпты будуць спецыяльна падабраныя для невідушчых людзей – смачныя, аднак не цяжкія ў прыгатаванні. Вядома, на адных сасісках далёка не паедзеш, тым больш, што гэта не зусім здаровае харчаванне. Варта зрабіць працэс прыгатавання ежы для невідушчых больш хуткім. Спадзяюся, кулінарная кніга стане добрым дапаможнікам.

Каб рэалізаваць задуму, Аляксандр плануе супрацу з кулінарнымі сайтамі, ужо пачаў рассылаць прапановы. Сам мужчына вельмі любіць плоў, спадзяёмся, яго ўласны рэцэпт таксама ўвойдзе ў кулінарную кнігу.

Акрамя працы над новым дадаткам, Аляксандр плануе выпусціць уласны альбом музычных кампазіцый, паспрабаваць свае сілы ў міжнародных музычных конкурсах і іншае.

Нам было цікава, адкуль у гэтым чалавеку столькі энергіі і як на ўсе планы і задумы хапае часу.

– Шчыра кажучы, я і сам час ад часу дзіўлюся гэтай чароўнай з'яве, – расказвае мужчына. – Напэўна, вялікую ролю сыграў тып тэмпераменту – я халерык, а таксама тып асобы – экстраверт. Гэта своеасаблівае спалучэнне дае сілы рухацца наперад, увесь час прыдумваць розныя рэчы. А ў душы я – рамантык. А як вядома, усе сусветна вядомыя рамантыкі імкнуліся жыць у дзесяцікратным тэмпе, я імкнуся да гэтага, пакуль многае атрымоўваецца.

Як прызнаўся нам герой публікацыі, каб рэалізаваць усе задумы, даводзіцца выдаткоўваць шмат часу – "добра, калі ўдаецца паспаць больш за пяць гадзін у суткі".



Галіна СУДНІКОВІЧ
8793850@gmail.com
Skype: sinica-galina92

## Ільянцы паўдзельнічалі ў спартыўным свяце "Піраты Вілейскага мора"

ВІЛЕЙКА

На пачатку мая вучні Ільянскай сярэдняй школы імя Грымаца ўдзельнічалі ў спартыўным свяце "Піраты Вілейскага мора".

Свята прымеркавалі да 145-годдзя Беларускага рэспубліканскага таварыства ратавання на водах.

Ад ільянскай школы ўдзельнічалі пяць вучняў: Юры і Аляксей Маскалевічы, Уладзіслаў Бажэлка, Эльвіра Кінзібулатава і Серафіма Шэрая. Разам з імі паехала, вядома ж, група падтрымкі.

Наша каманда называлася "Адважныя". Капітанам каманды быў прадстаўнік Вілейскага раённага аддзела надзвычайных сітуацый **Валеры Варановіч**.

У самым пачатку спаборніцтваў кожная з шасці камандаў выступала з візітоўкай. А потым пачалося самае цікавае – конкурсы.

Першы конкурс называўся "Пераправа". У ім кожны ўдзельнік каманды павінны быў пераплысці з выратавальным кругам праз увесь басейн.

Далей – конкурс капітанаў. Ім неабходна было кінуць як мага далей выратавальны круг.

Асабліва нам спадабаўся конкурс "Пірацкія скарбы". За пэўны час удзельніку кожнай каманды трэба было з дна басейна сабраць найбольш "скарбаў".

Акрамя актыўных конкурсаў на вадзе былі і інтэлектуальныя. Правяралі веды правілаў паводзін на вадзе ў залежнасці ад сезона. Высвятлялі, ці ведаюць удзельнікі, як аказваць першую дапамогу пацярпеламу.

Першае месца заняла каманда вілейскай школы №3, другое – "Логас", трэцяе месца ў гімназіі №2.

Каманда нашай школы заняла чацвертае месца. Затое групу падтрымкі каманды ільянскай школы прызналі найлепшай.

**Юля УСЦІНОВІЧ**, вучаніца 8 класа Ільянскай сярэдняй школы імя Адама Грымацця.




Фота Алесі СЭСЮРАВАЙ.

Групу падтрымкі каманды ільянскай школы прызналі найлепшай.

● НАВІНЫ

### Трэцяе запар паражэнне "Смаргоні"

СМАРГОНЬ

Стартаваў ФК "Смаргонь" удала: два выйгрышы на выездзе. А потым пачалася пройгрышная серыя. У пяты туры чэмпіянату Беларусі па футболе ў першай лізе смаргонцы атрымалі трэцяе запар паражэнне. У Лунінцы 6 мая яны саступілі мікашэвіцкаму "Граніту" 1:4.

"Смаргонь" забіла першай: на 10-й хвіліне вызначыўся **Павел Дзямідчык**. А далей каманда запар прапусціла чатыры галы – і ўсе забіў **Павел Забелін**.

Пасля пятага тура "Смаргонь" займае восьмае месца ў турнірнай табліцы. Наступны матч каманда згуляе 13 мая дома супраць "Праменя" з Мінска.

### "Ашмяны-БДУФК" саступілі лідару

АШМЯНЫ, МАЛАДЗЕЧНА

У чэмпіянаце Беларусі па футболе ў другой лізе "Ашмяны-БДУФК" 6 мая дома прымалі лідараў турніру, ФК "ЮАС" з Жыткавічаў. Хоць ашмянцы вялі 2:0, але ў выніку прайгралі 2:3.

У гэты ж дзень адбылося маладзечанскае дэрбі. У Чысці мясцовая каманда прымала "Маладзечна-ДЮСШ-4". Гаспадары саступілі маладзечанцам 0:1.

"Маладзечна-ДЮСШ-4" з сямю ачкамі ідзе на трэцім месцы, "Чысць" – на дзявятым. У каманды тры ачкі. "Ашмяны-БДУФК" займаюць апошняе месца з мінус двума ачкамі (каманда стартавала з мінус пяцю ачкамі).

**Аддзел інфармацыі.**

# Пабудаваў сваю "армію"

МАЛАДЗЕЧНА

**На карме карабля лунае сцяг Італіі. Выратавальныя шлюпкі, гарматы, катапульты, катары – усё гатова, і, здаецца, вось-вось крэйсер "Пола" спусціцца на марскую роўнядзь і, як у часы Другой сусветнай, прыступіць да ваенных дзеянняў.**



Фота з архіва Арцёма ШАХНО.

У Арцёма Шахно вялікая калекцыя ўзнагарод: 35 медалёў, 6 кубкаў, каля 100 грамат. Цяпер юнак збірае мадэль амерыканскага карабля "Арызона" і мае намер удзельнічаць у чэмпіянаце свету.

Але гэтага не адбудзецца, бо перад намі ўсяго толькі дакладная копія карабля, паменшаная ў 350 разоў, якую пабудаваў юны маладзечанец **Арцём Шахно**.

У цэнтр творчасці дзяцей і моладзі "Маладзік" яго прывёў тата **Віталь Шахно**, які кіруе гуртком "Тэхнічнае мадэляванне". Першую мадэль – карабель з пластыку – пяцігадоваму Арцёму дапамагалі рабіць старэйшыя і з большым досведам навучэнцы. З часам хлопчык так захапіўся мадэляваннем, што стаў наведваць і іншыя гурткі пад кіраўніцтвам **Мікалая Хрэшчыка**.

**У 12 гадоў юнак стаў кандыдатам у майстры спорту. А нядаўна выканаў нарматыў майстра спорту і пры яго пацвярджэнні атрымае гэтае званне.**

За дзесяць гадоў Арцём сабраў вялікую калекцыю ўзнагарод: 35 медалёў, 6 кубкаў, каля 100 грамат. Неаднаразова ўдзельнічаў у рэспубліканскіх спаборніцтвах, а летась стаў прызёрам чэмпіянату Еўропы па стэндавым мадэлізме.

Калі я папрасіла Арцёма падлічыць створаныя ім мадэлі, ён на хвіліну задумаўся, уяўляючы сваю "армію", але ў выніку адказаў: "Вельмі шмат, іх нерэальна палічыць".

– Усім, хто плануе заняцца мадэляваннем, я хачу пажадаць цярпення, таму што без яго ў такой справе не абысціся, – кажа юнак.

Яшчэ б, бо каб пабудаваць адзін карабель, трэба год, а то і два. Так шмат часу неабходна, каб зрабіць поўную копію, паўтарыць кожную дэталь да дробязяў, а іх можа налічвацца да трохсот. Да таго ж усё трэба зрабіць акуратна і якасна.

– Перш чым пачынаю працу, я вывучаю інфармацыю пра рэальны карабель: год пабудовы, у якіх бітвах удзельнічаў і г.д. Потым ідзе чытанне чарцяжа. Асаблівую ўвагу трэба надаць колерам і дробным дэталям, – распавядае Арцём.

А яшчэ юнак робіць дыярамы – аб'ёмныя вывы батальных сцэн. Адна з апошніх работ – рэканструкцыя марскога порта з прычаламі, караблямі, экіпажам і парусным партугальскім суднам Sagres у цэнтры. З гэтай дыярамай Арцём Шахно стаў пераможцам першынства Мінска і Мінскай вобласці па суднамадэльным спорце "Абаронца Айчыны-2017".

Цяпер Арцём збірае мадэль амерыканскага карабля "Арызона" і мае намер удзельнічаць у чэмпіянаце свету.

Акрамя мадэлявання юнак займаецца пляжным валейболам, абараняе гонар школы ў раённых турнірах.

– Не куру і нікому не раю, выбірайце спорт і актыўны адпачынак! – заклікае аднагодкаў да здаровага ладу жыцця наш герой.

**Ангеліна ВАРАТЫНСКАЯ**, навучэнка школы журналістыкі "Маладзік".

## З футбольнага матча ў круіз па Скандынавіі

МАЛАДЗЕЧНА

**Першы дамашні матч футбольнай каманды "Маладзечна-ДЮСШ-4" адбудзецца ў суботу, 13 мая.**

І пачнецца сезон з сюрпрызаў ад кіраўніцтва каманды.

Усе тыя, хто прыйдзе на матч, змогуць паўдзельнічаць у розыгрышы падарожжа ў Скандынавію.

– Пры гэтым не забывайце, што ўваход на стадыён бясплатны, – удакладняе старшыня праўлення ФК "Маладзечна-ДЮСШ-4" **Андрэй Іваненка**. – Аднак тым, хто разлічвае выйграць прыз, раім прыйсці крыху раней, каб паспець да пачатку матча і не тоўпіцца ў чэргах.

На гэтым сюрпрызы не скончацца.

– У бліжэйшых нашых матчах дзяцей, якія прывядуць на стадыён сваіх бацькоў, мы будзем бясплатна частаваць марожаным.

Першым хатнім сапернікам маладзечанцаў стане каманда з Рэчыцы.

Пачатак матча а 18 гадзіне.

**Наталля ТУР.**



# Крыжаванка ад "Рэгіянальнай газеты"



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
1. Танец з шасці фігур з цотным лікам пар.
3. Астаткі нафты пасля адгонкі з яе бензіну, газы і газаліну.
4. Група людзей, прызначаная ахоўваць.
6. "Моцны статак чарадою, а людзі ..."
7. Імператар, які спаліў Рым.
10. Росквіт чаго-небудзь.
12. Паляўнічы сабака, прывучаны гнаць звера.
13. У більярдзе – удар, калі шар трапляе ў лузу, адскочыўшы ад борта пад ударам другога шара.
15. Поле, на якім вырошчваюць гарбузы, кавуны, дыні.
16. Партовы рабочы.
20. Вялікі беспарадак.
22. Горад рэгіёна Павілля, на гербе якога выява чырвонага цяляці.
23. Горад, у якім размешчаны Тадж-Махал.
24. Вільготны, сыры.
27. Якому беларускаму пісьменніку належыць цытата: "Хто не памятае мінулага, хто забывае мінулае – асуджаны зноў перажыць яго. Безліч разоў".
28. Покрыва ў выглядзе шкарлупіны, скуркі, верхні слой.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
2. Пастанова вярхоўнай улады.
5. У мінулым – чалавек іншай веры.
8. Вялікі кавалак, абломак цвёрдага рэчыва.
9. Сталіца усходняй краіны, назва якой азначае "божы дар".
11. Паглыбленне ў пярэдняй частцы чэрапа, у якім змешчаны вочны яблык.
12. Вязкі асадак з мінеральных або арганічных рэчываў на дне вадаёмаў.
14. У каталіцкай царкве: літургія, абедня.
15. Мінеральная вада як лекавы сродак.
17. Імя аднаго з найлепшых кулачных барцоў Старажытнай Грэцыі.
18. Старана прамавугольнага трохвугольніка, якая прылягае да прамога вугла.
19. Забаўная выхадка.
21. Зацяжная пятля, завязаная адным канцом.
24. Вада ў стане кіпення.
25. Тое, што і скумбрыя.
26. Род фарбы для валасоў.

## АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ З №17.

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 3. Праўда. 5. Дыхт. 7. Шамякін. 11. Буколіка. 13. Жыццё. 14. Вязь. 15. Абеліск. 17. Аўрал. 18. Аварот. 19. Сакрэт. 22. Більён. 23. Абажур. 24. Валун. 25. Дзяльба. 27. Абзац.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 1. Даступнасць. 2. Баталія. 4. Брэх. 5. Джала. 6. Манхэтан. 8. Авантура. 9. вВохра. 10. Вакацыі. 12. Гуляш. 16. Вепр. 17. Аксельбанты. 20. Жэньшэнь. 21. Абанент. 22. Бюст. 24. Вітушка. 26. Парагвай.



## ГАРАСКОП 12-18 МАЯ



**АВЕН.** Мы не заўсёды цэнім тое, што ёсць, імкнёмся валодаць большым ці хаця б проста чымсьці новым. Удзяліце час не толькі ўцехам, але і роздумам аб сэнсе жыцця і адносінах, аб іх месцы і ролі ў жыцці.



**ЦЯЛЕЦ.** Вам варта ўсур'ёз задумацца над фінансавымі пытаннямі, якія апошнім часам цалкам выходзяць з-пад вашага кантролю. Цяпер спрыяе лёс, і ў вас з'явяцца магчымасці самастойна штосьці змяніць. Але толькі ў тым выпадку, калі вы будзеце прыслухоўвацца да свайго сэрца і інтуіцыі.



**БЛІЗНЯТЫ.** Займіце пазіцыю чакання і не прымайце ніякіх актыўных дзеянняў. Разлічвайце на дапамогу толькі самых блізкіх і верных сяброў, бо іншая можа мець злы намер. І не цягніце коўдру на сябе, і самі не застаняцеся без яе.



**РАК.** Праяўляйце больш фантазіі, пачуцця гумару і аптымізму. Старайцеся ўсюды знаходзіць нестандартныя рашэнні, гэта істотна дапамога і дома, і на рабоце. Важна, каб вы спакойна адносіліся да крытыкі, накіраванай у ваш адрас. Галоўнае, не спрачайцеся, і тады сітуацыя хутка памяняецца ў лепшы бок.



**ЛЕЎ.** За што б вы ні ўзяліся, вы зможаце лёгка прасунуцца па намечаным шляху. У нейкіх выпадках прыйдзецца праявіць больш хітрасць. Вас чакаюць перамены. Адзіны спосаб перажыць такія падзеі – гэта прыняць іх.



**ДЗЕВА.** Вам шанцуе ў каханні і па-буйному. Адзінокія сустрэнуць чалавека, які можа стаць для іх ідэальным партнёрам на доўгія гады. Сямейных чакаюць новыя радасці ў адносінах, і пачуцці ўспыхнуць з новай сілай і цеплынёй.



**ШАЛІ.** Старасць – у чалавека ў галаве. Вы павінны расці і вучыцца далей. І гэта адзінае супрацьядззе ад старасці. Не замыкайцеся ў сабе, прымайце дапамогу і самі дапамагайце.



**СКАРПІЁН.** Даецца магчымасць займець мір у душы, гэта значыць, прывесці свой унутраны свет да такога становішча, калі ніякія знешнія падзеі не змогуць вас расстроіць і выбіць з каляіны. На гэтых днях у вас стануць зараджацца новыя ідэі і адкрывацца цікавыя перспектывы.



**СТРАЛЕЦ.** Вам не хочацца рабіць работу, якая ну, зусім надакучыла, але пры гэтым і кінуць яе нельга. Разрадзіць абстаноўку дапаможа сустрэча з прыемным вам чалавекам ці пасядзелкі ў невялікай сяброўскай кампаніі.



**КАЗЯРОГ.** Цяпер з вас можна браць прыклад, бо вы паспяховыя ва ўсіх пачынаннях, можаце ганарыцца сабой. Толькі нікому не давайце ніякіх парадаў і не ўказвайце, як трэба рабіць, а як нельга. Добра, калі людзі самі папросяць у вас парады, а вось навязваць сваё меркаванне, хоць і аўтарытэтнае, усё ж не варта.



**ВАДАЛЕЙ.** Жыццё будзе кіпець, вы зможаце ўсюды паспець і перарабіць усе справы. Але не давайце мімалётным эмацыйным усплёскам ўлады над сабой.



**РЫБЫ.** Пастарайцеся мець зносіны з навакольнымі роўна столькі, колькі неабходна, не трэба траціць на пустую балбатню шмат часу. Але гэта не тычыцца размоў з тымі, хто вам сімпатычны. Спрыяльны час для давядзення да розуму даўно пачатых спраў. У выхадныя вас могуць чакаць прыемныя сюрпрызы ад блізкіх.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 3 | 8 | | | 6 | 4 | | | |
| | | | 1 | | | | 6 | |
| | | | | | 8 | | 3 | 7 |
| | 3 | | | 5 | | | | 4 |
| | 2 | | 8 | | 3 | | 9 | |
| 9 | | | | 7 | | | 8 | |
| 8 | 1 | | 3 | | | | | |
| | 7 | | | | 6 | | | |
| | | | 4 | 8 | | | 5 | 6 |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**



